© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 24 (2039) ГОД XL БЕЛАСТОК 11 ЧЭРВЕНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

*Бэата Капій*

## Боль кахання, боль смерці

**(яшчэ пра паэзію Максіма Багдановіча)**

Максім Багдановіч — гэта паэт, які несумненна займае адно з першых месц у гісторыі беларускай літаратуры. Народжаны 9 снежня 1891 года ў Мінску, мяняючы не раз месца жыхарства, старанна і рознабакова адукаваны, ад самых маладых гадоў свайго жыцця фарміруецца як беларускі паэт.

Яму 16 гадоў, калі друкуе у „Нашай ніве” свой першы твор — алегарычную казку „Музыка” і 22 гады, калі выдае „Вянок” — класічны зборнік беларускай паэзіі, які па сённяшні дзень з'яўляецца багатай крыніцай для сучасных крытыкаў і гісторыкаў літаратуры.

Багдановіч піша таксама публіцыстычныя творы, крытычна-літаратурныя распрацоўкі, займаецца перакладамі сусветнай паэзіі на беларускую мову (Г. Гейнэ, Ф. Шылер, Гарацый, Авідый, Пушкін і ін.). Беручы пад увагу ўзрост паэта, які пражыў усяго 26 гадоў, трэба сцвердзіць, што ён пакінуў багатую літаратурную спадчыну. Багатую не столькі сваёй колькасцю, але сваёй мастацкай вартасцю.

У сваёй творчасці Багдановіч уздымае вельмі шырокія тэмы. Адклікаецца да міфалагічных матываў — не толькі грэчаскіх і рымскіх, але і славянскіх, звяртаецца часта да антычнай традыцыі, уздымае новыя для беларускай літаратуры, якая дагэтуль амаль выключна абмяжоўвалася да вясковай манатэмы, адклікаецца да беларускай народнай традыцыі, да фальклору, да вусных пераказаў.

Углыбляючыся ў літаратурную спадчыну Багдановіча, нельга не заўважыць факт, што ў значнай колькасці паэтычных твораў паэт задумоўваецца над праблемамі вельмі важнымі ў жыцці кожнага чалавека — над каханнем і смерцю.

Шукаючы вытокаў зацікаўлення Багдановіча вышэйзгаданымі праблемамі, нельга не аднесціся да біяграфіі аўтара. У ёй знаходзім здарэнні і перажыванні, якія ў выразны спосаб пакінулі адбітак у шэрагу твораў.

Смерць спадарожнічае Багдановічу з наймалодшых гадоў. Спачатку кранае блізкія яму асобы (маці — Марыю, другую жонку Адама Багдановіча — Аляксандру, старэйшага брата — Вадзіма і малодшага — Шурыка), потым ёсць неадлучнай таварышкай самога паэта. Успомнім, што ўжо ў дзяцінстве ў Максіма паявіліся першыя сімптомы туберкулёзу, які з цягам часу, прагрэсіруючы, прынесў з сабою вялікія фізічныя і душэўныя пакуты. Можна дайсці да вываду, што гэта яна — прагрэсіруючая хвароба — нарадзіла ў душы паэта пачуццё хуткаплыннасці жыцця, выклікала няпэўнасць уласнага існавання, што гэтыя цялесныя і псіхічныя цярпенні ўзмацнялі прагу напоўненага шчасцем і каханнем жыцця, але і перапляталі яе аднначасова з горычу ўсведамлення сабе немагчымасці ўсяго гэтага.

Падобна як творы ўздымаючыя праблему смерці, таксама творы ўздымаючыя праблему кахання маюць выразны аўтабіяграфічны характар.

Хочучы зразумець ці растлумачыць факт так частай наяўнасці ў паэзіі Багдановіча матыву кахання, неабходна звярнуцца ў бок біяграфічнага плана. Пераважна Багдановіч, як ведаем, некалькі любоўных няўдач, перажыў таксама шэраг захапленняў жанчынамі. Трэба тут нагадаць М. А. Кіціцыну, Г. Гапановіч, А. Р. Какуеву ці К. Салтыкову. Так што шматлікія творы паэта, а таксама недапрацаваныя стылістычна фрагменты твораў сведчаць аб факце знаёмства з гэтымі жанчынамі і паказваюць на інтэнсіўныя

*Працяг на стар. 8*



*Адзіны вядомы прыжыццёвы партрэт Максіма Багдановіча. Аўтар малюнка, як мяркуецца, мастак С. Пефці, або мастак Бацюкоў. Арыгінал страчаны ў Айчынную вайну.*

**Аляксандра Паўлаўна Волжына** — другая жонка Адама Ягоравіча Багдановіча — бацькі паэта. Яна непрацяглы час выхоўвала Максіма Багдановіча і яго братоў. Памерла ад родаў. Максім Багдановіч з вялікай цеплынёй і пяшчотай адносіўся да Аляксандры Паўлаўны і балюча перажываў яе смерць. Трагічным лёсам гэтай жанчыны навеяны ў пэўнай ступені цыкл вершаў „Каханне і смерць”.

* * *



Белы крыж, пліта, пад ёй — магіла;
Мілым кветам рожа зацвіла.
Тут калісьці ты, мой друг, спачыла, —
Спарадзіла ў муках і лягла.

Усё мінула — і боль, і гора, —
Усё кудысь далёка адышло;
Але строгі надпіс: „Disce mori”
Нагадае, што з табой было.

**Максім Багдановіч**

## ПАД ПАГРОЗАЙ ВЫНІШЧЭННЯ

**Размова з Зенанам Квяткоўскім, цыганскім войтам на тэрыторыі Польшчы і Янам Пачкоўскім, старшынёй Таварыства нацыянальнай меншасці цыганоў у Польшчы „Салідарнасць” з сядзібай у Кельцах.**

*— Ці слова „Салідарнасць” у назве вашага таварыства мае нешта супольнае з польскім прафсаюзам?*

**З. Квяткоўскі:** — Калі б польская „Салідарнасць” была такая як нашая, не было б у Польшчы забойстваў, нашы людзі не гінулі б з рук палякаў. Мы жывем у пастаянным страху, баімося выйсці на вуліцу, дзяцей у школы не пасылаем. Мае дзеці школы паканчалі, маюць матуры, але ўнукаў я баюся пасылаць. Цяжка апісаць тое, што ў Польшчы цяпер робіцца. Абы падонак можа практычна бяскарна забіць цыгана. Паліцыя нас карае за абы-што. У любой спрэчцы між палякам і цыганом пракуроры паляка выпусцяць, а цыгана засудзяць. Раней так не было. Вандравалі мы па ўсёй Польшчы, затрымліваліся па лясах, ля вёсак. Людзі нас шанавалі, прыходзілі паслухаць музыку, цанілі вырабы нашых кацельшчыкаў. А цяпер польская моладзь нас ненавідзіць. Мы баімося, што калі нянавісць будзе нарастаць, то нас чакае такі лёс, як яўрэяў у час вайны.

*— Вандраваць вам забаранілі камуністы.*

**З. Квяткоўскі:** — Пры камуністах жыць было ні добра, ні дрэнна, але я б выбраў тыя часы. Тое, што нам забаранілі вандраваць, гэта была іхняя вялікая памылка. Забаранілі нам нашу культуру, нашу душу. Не павінны былі гэта рабіць. Але тады было вядома, да каго звярнуцца за дапамогай, калі што — у партыю. А цяпер у кожным горадзе іншыя законы.

**Я. Пачкоўскі:** — Паехалі мы ў некалькі асоб, з дзецьмі ў Кракаў на экскурсію. На рынку Старога Мяста кінуліся на нас трое ў цывільным. Пачалі страшэнна таўчы. Дзяцей падымалі і кідалі аб зямлю. Крычалі: „Не падыходзіць! Гэта румыны, якія замардавалі кабету!” Скавалі нас. На камісарыяце распранулі пры малых дзяўчынках, забралі грошы і казалі падпісаць, што нам нічога не прапала. Прыгразілі, што калі пісьнем слоўца, то пойдзем з газам, як яўрэі ў Асвенціме. Вярнуліся мы ў Кельцы, зрабілі медычнае абследаванне, напісалі ліст самому Валэнсу. Але раённы суд у Кракаве нас палічыў вінаватымі. Суддзя прызнала, што гэта я піхнуў паліцыянта. Пытала: „Хто вам пазволіў прыехаць у Кракаў?” Ваяводскі суд падтрымаў прыгавор раённага. Я напісаў скаргу ў Міністэрства юстыцыі, то цяпер, пасля двух гадоў, аднавілі справу. Тыя паліцыянты і суддзі гавораць сабе на „ты”, у перапынках працэсу п'юць разам каву. Паліцыянт пры пракуроры гаворыць, што нас заб'е, калі толькі з'явімся ў Кракаве.

**З. Квяткоўскі:** — Мы не працуем па дзяржаўных установах, у міністэрствах, не робім кар'ераў, не займаемся палітыкай. Мы толькі хочам звычайных чалавечых правоў. Польшча, гэта таксама наша айчына. За Польшчу ваявалі і гінулі таксама нашы продкі. У гэтай зямлі ляжаць косці нашага народа. 21 тысяча цыганоў загінула ў Асвенціме, а

*Працяг на стар. 4*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Białorusini większością głosów w wolny i nieprzymuszony sposób wyrazili pragnienie powrotu do matki-Rosji i do emblematów z okresu sowieckiego. Rownocześnie wyposażyli prezydenta Łukaszenkę we władzę właściwie nieograniczoną, a zarazem zbojkotowali wybory do parlamentu, odkładając na bliżej nieokreśloną przyszłość wszelką możliwość demokratycznej kontroli władzy wykonawczej. W ciągu kilku godzin Białorusini dokonali właściwie dzieła bez precedensu. Drogą suwerennej i demokratycznej procedury wyborczej postanowili zrezygnować z niepodległości i demokracji.*

*Łukaszenko nie ukrywa swoich ambicji. „Jedność słowiańska, powiedział prezydent białoruski, to dla nas kwestia życia. Jeżeli naród tego zażąda, to nasza integracja polityczna z Rosją będzie jeszcze bardziej ścisła niż w epoce sowieckiej". Rosji naturalnie nie stać na wydanie choćby jednej kopiejki na ratowanie poziomu życia Białorusinów. Co innego jednak karmić Białoruś, a co innego wciągnąć ją w rosyjską strefę geopolityczną. To jest znacznie tańsze i na to pieniądze zawsze się znajdą. Świat Białorusią się nie interesuje, nawet ją lekceważy. Kto to jest Białorusin? — pytają. I odpowiadają: to pionek w rosyjskiej grze.*

*Pionki już nieraz zadecydowały o wyniku szachowego meczu. Rosjanie są w tej grze mistrzami.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 119)*

* * *

*Karol Marks w życiu prywatnym był bardzo nieporządny, złośliwy, prowadził cygańskie życie. Rzadko mył się i zmieniał bieliznę. Często natomiast był pijany i wałęsał się przez cały dzień. Miał stałą zasadę postępowania: „należy wydawać więcej niż się ma". Był nieznośny, szorstki, nietolerancyjny, snob, a nawet konformista, który próbował „dobrze" wydać za mąż swoje córki, amator łatwego zarobku na giełdzie, niepoprawny dzieciorób i niezbyt wierny małżonek.*

*Marks nie był sentymentalnym socjalistą, któremu serce krajało się na widok cierpień klasy robotniczej. Nigdy nie wszedł do mieszkania robotnika. Współczucie było mu raczej obce. Traktował klasę robotniczą globalnie i pod jednym kątem widzenia: musi być zdolna do akcji rewolucyjnej, by zawładnąć środkami produkcji.*

*(Polityka, nr 20)*

Даволі жулікаваты быў гэты апостал камунізму.

* * *

*Karę śmierci wykonuje się w Chinach w obecności widzów, czasem na stadionach sportowych. Publiczność bierze aktywny udział w ceremonii, lżąc skazanych. Tych ostatnich układa się po kilkunastu twarzą do ziemi, przy każdym umieszcza się napis jak się nazywa i za co zostaje zabity, najczęściej strzałem w tył głowy. Często oglądają to dzieci, które przyprowadza się całymi klasami prosto ze szkoły. Gazety zamieszczają ilustrowane relacje z takich spektakli.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 119)*

Кітайскія камуністы называюць гэта „выхаваннем для міру".

* * *

*Obecnie w szkołach Wielkiej Brytanii uczy się ponad 250 potomków rosyjskich milionerów. Rodzice każdego z nich płacą czesne nie niższe niż 15 tys. funtów miesięcznie* (45 мільёнаў злотаў).

*

*Ksiądz Duda z Warszawy sprowadził w ciągu roku 23 samochody zwolnione z cła, jako służące do celów duszpasterskich.*

*(Angora-Biznes, nr 21)*

* * *

*Wałęsa i jego otoczenie mają ochotę na samodzierżawie. Co do tego — nie ma wątpliwości. Wałęsa nie ukrywa, że marzy mu się tron cara,* — сказаў Аляксандр Малахоўскі.

*(Gazeta Współczesna, nr 96)*

* * *

*Polacy na Białorusi, podobnie jak ich sąsiedzi Białorusini, głosowali za językiem rosyjskim, za integracją z Rosją i za czerwoną gwiazdą w nowym herbie Białorusi. Bo tak zostali wychowani,* — піша Эўгэніюш Скрабоцкі, дзеяч Саюза палякаў у Беларусі.

*(Gazeta w Białymstoku, nr 116)*

* * *

*W opinii prezesa Unii Polityki Realnej, Janusza Korwina-Mikke, związki zawodowe należy zniszczyć, a działaczy związkowych internować. Związek zawodowy jest rakiem, drążącym cywilizację, ma ogromną władzę i przeszkadza ludziom w pracy,* — powiedział Janusz Korwin-Mikke.

*(Gazeta Współczesna, nr 97)*

Ці ж не мае рацыі?

* * *

*Ja mam więcej odznaczeń niż Breżniew,* — powiedział Lech Wałęsa na spotkaniu z działaczami „Solidarności" w Stoczni Gdańskiej.

*(Kurier Poranny, nr 114)*

Віншуем!

* * *

*Ludność białoruska w Polsce potrzebna jest Łukaszence jak psu piąta noga. Nasze istnienie w Polsce mu przeszkadza. Przeszkadza mu także istnienie Białorusinów na Białorusi,* — сказаў Сакрат Яновіч.

*(Przegląd Tygodniowy, nr 20)*

* * *

*Białorusinów na Białorusi jest właściwie mało, ja ich obliczam na około 20 procent, czyli oni tam stanowią mniejszość narodową, taką mniejszość białoruską na Białorusi, a reszta to jest taka Wandea po byłym imperium radzieckim, resztówka narodu radzieckiego,* — сказаў, таксама, Сакрат Яновіч.

*(Kurier Poranny, nr 118)*

На нашу думку „цэ пэрэсада" спадар Яновіч. Ці вы не памятаеце калі 99,99% палякаў галасавала на спісак Frontu Jedności Narodu, якога лозунгі гучалі: *Z bratnim Związkiem Radzieckim po wsze czasy!* У сапраўднасці менш чым палова беларусаў, атуманеных лукашэнкаўскай хлуснёй, падпісалася пад гэтым лозунгам. Рэчаіснасць бывае больш складаная, чым нам здаецца. А прытым памятайма, як выглядалі выбары пасля 1989 г. у польскі парламент у беларускім асяроддзі Беласточчыны!

# З мінулага тыдня

**Вярхоўны Адміністрацыйны Суд** у Варшаве прызнаў несапраўдным рашэнне былога шэфа Управы Рады Міністраў **Яна Мар'і Ракіты** аб перадачы **комплексу манастырскіх збудаванняў у Супраслі Праваслаўнай Царкве.** Апеляцыю ў гэтай справе накіраваў у суд Каталіцкі касцёл, які, хаця і ладзіць экуменічныя набажэнствы, аднак намагаецца перашкодзіць вяртанню манастырскага комплексу законнаму ўладальніку. Апошняя пастанова ВАС не вырашае аб будучых лёсах манастыра ў Супраслі, а толькі сцвярджае несапраўднасць рашэння міністра Ракіты. Абазначае гэта, што справу яшчэ раз будзе разглядаць цяперашні шэф УРМ **Марэк Бароўскі.**

**У Ватыкане** апублікавана новая **энцыкліка папы Яна Паўла II — „Ut unum sint" („Каб было адно").** Дванаццатая па чарзе энцыкліка папы-паляка прысвечана экуменізму — імкненню да адзінства ўсіх хрысціян. Раскол у хрысціянстве называецца ў энцыкліцы грэхам. У ёй змешчаны заклік „пакінуць пазіцыі праціўнікаў, пасвараных бакоў, каб апынуцца на плоскасці, на якой абодва бакі трактуюць сябе як партнёраў". Папа крытычна аднёсся да інстытута папскага прастола ў мінулым і папрасіў прабачэння за ўсё, што прычыніла боль іншым хрысціянам.

**Ні Барыс Ельцын, ні Аляксандр Салжаніцын** не прынялі ўдзелу ва ўрачыстасці закладкі краевугольнага каменя пад **польскі могільнік у Катыні,** якая адбылася 4 чэрвеня г.г. На запрашэнне польскага боку Масква дала адмоўны адказ, прыгадваючы, што **Лех Валэнса** не прысутнічаў у святкаванні Дня Перамогі ў сталіцы Расеі, якое адбылося 9 мая г.г.

— Набыццё самастойнасці Філіялам Варшаўскага універсітэта і стварэнне **універсітэта ў Беластоку** магло б адбыцца ўжо ў 1995/96 навучальным годзе. Рашэнне аб стварэнні універсітэта знаходзіцца не столькі ў Варшаве, колькі ў Беластоку, — сказаў міністр адукацыі праф. **Рышард Чарны,** які па запрашэнню ваяводы гасцяваў у Беластоку. Міністр наведаў дзве школы ў горадзе, у якіх адтэрміноўваецца завяршэнне інвестыцый з-за недахопу грошай, потым сустрэўся з рэктарскай калегіяй Філіяла УВ, дзе ваяводу даручана каардынаваць дзеянні наконт стварэння самастойнага універсітэта. Візіт закончыўся спатканнем міністра з настаўнікамі, на якім вядучай тэмай была катастрафічная фінансавая сітуацыя асветнага сектара.

**Завяршыўся мастацкі конкурс „Жаўнерскія дарогі 1939—1945",** арганізаваны Музеем Войска ў Беластоку і Інстытутам удасканальвання настаўнікаў. Сярод пераможцаў апынуўся **Ян Іванюк** — вучань Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім, які атрымаў вылучэнне ў групе 10—11-годкаў.

**Ваяводская санітарная інспектура** правяла даследаванне вады ў **купальнях на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства.** У выніку забаронена купацца толькі ў двух месцах: на рацэ Нарве ў Нарве і вадаёме ў Саколцы. Без боязі за сваё здароўе можна купацца на Супраслі — пляжы ў Супраслі, Васількаве і Юроўцах, на Нарве — у мясцовасцях: Рыбакі, Плёскі, Войшкі, Дакторцы, Сураж, Угова, Лапы, і на Бугу — у Мельніку, Вульцы і Драгічыне. Прыгодны таксама для купання вадасховішчы ў Дайлідах, Чорнай-Беластоцкай, Сідры, Крынках, Дубічах-Царкоўных, Семяноўцы і Сямяцічах.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- > Дні Бельска — рэпартаж Міколы Ваўранюка.
- > У Беластоку ёсць дзе выдаваць грошы — рэпартаж Міры Лукшы аб адкрыцці казіно.
- > "Цэнтрсаюз" — беларуская партыя ці твор польскай адміністрацыі?.
- > Цуды і дзівы Беласточчыны.

# АБ'ЯВА

Беларускае аб'яднанне студэнтаў запрашае рокавыя гурты выступіць у конкурснай частцы фестывалю „Басовішча'95".

Падставай для ўдзелу ёсць прысутнасць у рэпертуары песень на беларускія словы.

Ахвотных просім кантактавацца з намі да канца чэрвеня 1995 г. па адрасу:

БАС
Беласток, вул. Сураска 1
(рэд. „Часопіса", тэл. 421—105).

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Вызваленне генеральнага пракурора

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб вызваленні Васіля Шаладонава ад абавязкаў генеральнага пракурора па ўласным жаданні. Просьбу пайсці з пасады Шаладонаў растлумачыў фізічнай і маральнай стомленасцю ў сувязі з вялікім аб'ёмам работ і напружанай перадвыбарчай кампаніяй. Кантрольныя службы прэзідэнта да таго часу мелі інфармацыю аб незаконнай прыватызацыі генеральным пракурорам дзвюх кватэр. Яго абвінавацілі таксама ў адсутнасці належнага кантролю за механізмам усынаўлення беларускіх дзяцей замежнымі грамадзянамі. Выконваючым абавязкі генеральнага пракурора прызначаны Васіль Капітан.

## Ціхіня не здаецца

Незалежная пазіцыя старшыні Канстытуцыйнага Суда Валерыя Ціхіні і яго спроба дзейнічаць толькі ў рамках закону не спадабалася прэзідэнту і яго паплечнікам. Пасля асуджэння Ціхінем у друку выказванняў кіруючых дзяржаўных асоб, што яны не будуць прытрымоўвацца законаў (а сказаў такое Аляксандр Лукашэнка), на пачатку мая раптам прагучала паведамленне Упраўлення палітычна-грамадскай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта аб магчымай адстаўцы старшыні КС, паколькі ён „пачаў умешвацца ў палітычную сферу, а гэта не прадугледжана Канстытуцыяй і законамі Беларусі". Пасля гэтага публічнага папроку са старшынёй КС доўга размаўляў кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Леанід Сініцын, у выніку чаго Валерый Ціхіня трапіў у шпіталь з дыягназам: востры сардэчны прыступ. Стан здароўя хворага апошнім часам паправіўся і спадар Ціхіня растлумачыў журналісту, што прэзідэнт не мае права вызваліць яго з пасады, бо гэта не ўваходзіць у ягоную кампетэнцыю. Старшыню КС можна адклікаць з пасады толькі ў двух выпадках: па ягонай асабістай просьбе і ў сувязі з ягоным прыцягненнем да крымінальнай адказнасці.

## Пратэст студэнтаў

24 мая г.г. у Менску студэнты гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта каля будынка былога ЦК КПБ, дзе цяпер знаходзіцца сядзіба прэзідэнта РБ, правялі акцыю пратэсту супраць вынікаў рэферэндуму. Сабраўшыся ля будынка гістфака, студэнты ланцугом, трымаючы рукі за галовамі, тройчы абышлі рэзідэнцыю прэзідэнта. На чале калоны невядомы нёс чырвона-зялёны лукашэнкаўскі сцяг. Потым дэманстранты павалаклі палотнішча па зямлі ў напрамку Тэатра імя Янкі Купалы і прымацавалі яго на гарадской прыбіральні. Нядоўга павісеў сцяг на нужніку, бо зараз знялі яго, парвалі на маленькія кавалачкі і раздавалі сярод удзельнікаў дэманстрацыі як сувенір. Адразу пасля гэтага міліцыя жорстка расправілася са студэнтамі і школьнікамі. Некаторыя атрымалі цялесныя пашкоджанні, некалькі чалавек былі затрыманы. Акрамя таго ў журналістаў і ўдзельнікаў дэманстрацыі міліцыя адбірала фота-, відэа- і аўдыёплёнкі.

## Машыны прэм'ера

20 красавіка са сталічнага праспекта Машэрава быў украдзены службовы „Мерседэс-300" прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра. Невядомаму злодзею ўдалося адарвацца ад праследавання супрацоўнікаў ДАІ, яго не спынілі нават аўтаматныя чэргі. Ужо другі месяц ідуць безвыніковыя пошукі. Пасля гэтага здарэння кіраўнік урада атрымаў новы аўтамабіль „Вольва-940" для выконвання сваіх службовых абавязкаў. Цяпер яго заўсёды суправаджаюць машыны ДАІ і спецыяльны аўтамабіль аховы. І нарэшце гісторыя пра трэцюю прэм'ераву легкавушку. Уноч з 17 на 18 мая „БМВ", які належаў сыну прэм'ер-міністра, трапіў у аварыю. Гаспадар аўтамабіля неасцярожна даў на нейкі час свой аўтамабіль сябрам. У тры гадзіны ночы машына на скорасці каля 130 км/гадз. сустрэлася з прыдарожным слупом. Адзін з пасажыраў загінуў, а другога адправілі ў рэанімацыю ў вельмі цяжкім стане.

## Клопаты з моладдзю

Цяпер моладзь сталее рана. Шкада толькі што фізічна, а не духоўна. Вось менавіта гэтая праблема не дае спакою гарадскім уладам Салігорска. З пачатку года ў гарадскі выканаўчы камітэт з просьбай знізіць шлюбны ўзрост, што як вядома вызначаецца з 18 гадоў, звярнуліся ўжо 10 прадстаўніц цудоўнага полу. Гэтыя просьбы прыйшлося задаволіць, таму што непаўналетнія дзяўчыны збіраліся стаць маці. У тым жа Салігорску сёлета за 4 месяцы было зарэгістравана больш разводаў, чым шлюбаў.

## Гродзенцаў усё менш

За I квартал гэтага года ў Гродзенскай вобласці нарадзілася 3 015 чалавек, што на 10,4% менш у параўнанні з гэтым жа перыядам мінулага года. У той жа час памерла 4 265 чалавек. Такім чынам трэці год запар смяротнасць у вобласці перавышае нараджальнасць. Галоўнай прычынай з'яўляецца нежаданне маладых людзей ствараць сем'і. Юнакі і дзяўчаты даюць перавагу ствараню сем'яў у далёкім і блізкім замежжы. Найбольшай папулярнасцю карыстаецца ў маладых градзянчан суседняя Польшча.



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# Усход і Захад

Аднойчы дзядзька Яшка з нашай вёскі расказаў мне наступную гісторыю:

Калісь, недзе ў 50-х гадах, перад Тройцай, калі вечарэла, пастукаў нехта ў яго акно і гукнуў, ці не патрабуе ён заказаць партрэт ці здымак свой або ўсёй сям'і. Дзядзька Яшка глянуў у акно і ўбачыў нейкага велікана, а за ім на вуліцы каляску-двухколку, у якую запрэжаны быў маленькі конік, хіба тарпан. Дзядзька адказаў: „Заходзь пан у хату і тут будзем гаварыць пра партрэты". Незнаёмы адказаў: „Калі будуць свежыя пірагі, то зайду". Размова вялася на польскай мове. „Калі ласка, заходзьце; будуць пірагі!" — пачуўся адказ з хаты. І ў хату ўвайшоў высокі, мо двухметровага росту, чалавек. Разгаварыліся. Аказалася, што госць з далёкай Познані і па Польшчы ездзіць на сваёй калясцы. На Беласточчыну завітаў упершыню. Ён не толькі фатограф, але і сапраўдны коміваяжор, географ і вялікі любіцель жывой прыроды. На стале ляжала раскрытая кніжка Аркадыя Фідлера пра Амазонію, дзе аўтар жывапісна апісаў прыроду гэтай часткі свету. Госць узрадаваўся і сказаў: „Аркады Фідлер гэта мой сусед праз вуліцу, добры знаёмы і сябра, мы часта разам ездзім па свеце".

Скора на стале паявіліся свежыя пірагі і іншая яда. Госць, пад'еўшы, шчыра падзякаваў і схапіўся за кашалёк, каб заплаціць. Дзядзька Яшка спыніў яго, кажучы: „У нас ніхто ніколі не бярэ грошай ад падарожных людзей: ні за вячэру, ні за абед, ні за снеданне — гэта свайго роду наш закон: падарожны лічыцца ў нас першым госцем".

Здзіўлены падарожнік дастаў са сваёй сумкі нейкую яшчэ даваенную тоўстую кнігу нямецкага аўтара і гартаючы яе старонкі найшоў напісанае больш-менш так: „Чым далей на ўсход, тым лепшыя там людзі — яны гасцінныя, мілыя, сардэчныя і ў бядзе падарожнага ніколі не пакінуць, хаця сустрэць там драўляную лыжку, апалонік — не рэдкасць, бо людзі жывуць бедна". Прачытаўшы гэтыя словы, госць сказаў: „Цяпер я сам на практыцы пераканаўся аб гасціннасці і шчырасці жыхароў Беласточчыны. А ў нас, у Познаньскім, незнаёмага падарожнага не толькі ніхто ў хату не ўпусціць і не накорміць, але яшчэ і сабакамі нацкуе; ніхто вады не дасць нават. Тут, у вас, на Беласточчыне — залатыя людзі", — закончыў свае разважанні чалавек з Познані.

На развітанне велікан зрабіў здымак сям'і за сталом, на якім ляжала кніжка А. Фідлера. Потым сардэчна ўсім падзякаваў, распытаў пра дарогу ў Белавежскую пушчу, куды і падаўся на сваёй дзіўнай калясцы запрэжанай дзіўным конікам. А праз месяц прыслаў здымак усёй сям'і дзядзькі Яшкі, які зрабіў ім на развітанне.

**Мікалай Панфілюк**

## Што ў 1995 годзе?

Сёлета ў Гайнаўцы працягваюць пабудову Пачатковай школы н-р 6 і ачышчальні сцёкаў ды пачынаюць перабудову вуліцы Варшаўскай. У горадзе будзе абсталяваны першы вулічны святлафор на рухлівым скрыжаванні вуліц 3 Мая і Стэфана Баторыя. На інвестыцыі будзе адведзена 20 працэнтаў усяго бюджэту горада.

У Гайнаўцы будзе таксама адкрыта кіно.

**(яц)**

## Хочаш купіць участак над Семяноўскім вадасховішчам?

У Гміннай управе ў Нараўцы перад рэфератам сельскай і лясной гаспадаркі стаіць невялікая чарга. Каля мяне чакаюць два мужчыны з Беластока, зацікаўленыя купляй зямельнага ўчастка „як найбліжэй вады" над Семяноўскім вадасховішчам. Заходзім разам у кабінет. Рэферэнт спадарыня Аліцыя Лукша паказвае план добраўпарадкавання найбліжэйшых ваколіц „семяноўскага возера". Беластачанам падабаецца месца ў Тарнопалі. Маюць да выбару яшчэ ўчастак у Новай Луцэ, даражэйшы з прычыны захаванага там старога дрэвастою. Цана ўчастка ў Новай Луцэ ў межах 40 мільёнаў старых злотаў.

— Усе „дзялкі", якія прапануем і прадаем мы, управа гміны, маюць правы на пабудову. Незалежна ад таго, ці хочаце ставіць там маленькі дачны домік, ці вялікі жыллёвы будынак. Яны велічыні 600-700-800 метраў, у Тарнопалі ёць і плошчай 1200-1300 метраў. Пры самай вадзе ёсць „дзялкі" ў Кругліку. Участкаў асталося яшчэ шмат. Падкрэсліваю: гэта адзіныя ўчасткі ў гміне, дзе можна будавацца. Прыватныя ўчасткі, якія прадаюць сяляне ў Семяноўцы і ваколіцах, гэта сельскагаспадарчыя, **без правоў на пабудову**, зазначце гэта выразна, каб людзей ніхто не ўводзіў у зман, — з націскам кажа сп. А. Лукша.— Селянін не будзе адказваць за тое, што хтосьці не атрымае дазволу на пабудову. Пакупнік будзе старацца атрымаць дазвол у Раённай управе ў Гайнаўцы, а яна, на жаль, такіх дазволаў не дае, прыказвае разваліваць „дзікія" пабудовы. Нашы ўчасткі ўсе маюць такое права — гэта „дзялкі" рэкрэацыйныя і жыллёвыя. Не будзе ніякіх абмежаванняў, якой велічыні будуць там стаяць дамы. Ахвотныя набыць участак у такім прываблівым месцы, як ваколіцы Семяноўскага вадасховішча, павінны кіравацца ў наш рэферат.

**Міра Лукша**

## Белавежскія паштоўкі

На пачатку мая г.г. выбар белавежскіх паштовак павялічыўся на 6 новых тэмаў. Паштоўкі аўтарства праф. Януша Гарэзьняка з Лодзі выпусціў Выдавецка-рэкламны дом „Сагаляра". Тыраж серыі невядомы. Цана адной карткі — 40 грошаў.

На пяці паштоўках паказана прырода Белавежскага нацыянальнага парку, на астатняй — урочышча ў гаспадарчай частцы Белавежскай пушчы. Серыю адчыняе картка з выявай караля белавежскіх нетраў — зубра. Затым бачым розныя лясныя краявіды: груд з ліпай, сасновы бор, алёс у час вясенняга разводдзя. Дзве астатнія карткі прадстаўляюць пень старой ліпы паросль травяністымі раслінамі і ўтроены стары дуб ва ўрочышчы Шчэкатова.

Паштоўкі могуць падабацца, але далёка ім да дасканаласці. Не заўсёды верна адлюстраваны на іх натуральныя колеры краявіду (напр., няма фіялетавага бору!). Але турыст, калі не мае спецыяльна вялікага выбару, і так іх купіць!

**Пётр Байко**

## Бакланы на Семяноўскім вадасховішчы!

Марскія крукі або інакш бакланы гнездзіліся над Балтыйскім морам. На возеры Вялікі Шэльмэнт паявіліся ў канцы васьмідзесятых гадоў. Цяпер іх тут каля 1 800. Апрача таго яны пасяліліся на азёрах: Добскім, Вялікім Друглінe, Галадусі, Гаўліку і Сэрвах.

Баклан гэта птах большы ад гускі, з дзюбай сагнутай у крук ды з качынымі нагамі. Вядомы як адметны плывец і нырэц. Яны могуць тры мінуты аставацца пад вадой. Пражэрлівы: штодзень з'ядае 350—420 грамаў рыб, а калі корміць маладыя — дык ад 700 да 1 000 грамаў.

Ад нядаўна бакланы пасяліліся на Семяноўскім вадасховішчы. Пакуль што тут налічылі іх 25 штук.

**(яц)**




Дарагая рэдакцыя!

Прачытала я ў 15 н-ры артыкул „Вярнуць бацькаўшчыну". Вы напісалі, што я будавала гэты дом разам з братам. У 1961 годзе мой брат ажаніўся, то прыязджаў толькі да жончынае радні, а да сваёй маці нават ніколі і не заглянуў. А на маёй будове ніколі не быў, не памагаў ніякай помаччу. У 1968 годзе мы з сынам залівалі фундамент. Сыну было 17 гадоў, як я пачала будавацца. Калі клалі зруб, скончыўся мне водпуск і сам сын зруб дакончыў. А потым сына забралі ў войска, дык я сама купляла матэрыялы на будову. Пісала я ў Гайнаўку аб пазыку, але Гайнаўка адмовіла. Я грошай многа не мела, брала пазыку на рабоце і за гэтыя грошы купляла матэрыял на будову. Сын прыйшоў з войска і з сынам залівалі строп, ставілі шчыты. Я зноў пазыку ўзяла на сынава вяселле. І так будавала я гэты дом больш за 20 гадоў (і яшчэ не скончыла ванную) без ніякай помачы ці то ад гміны, ці каго іншага. Я сама рабіла многа работы. У гміне то я сварылася за вапну і цэмент, і за іншыя матэрыялы, але ніхто не прыйшоў мне з дапамогай, ані ўрад, ані брат. Мне было вельмі цяжка. І яшчэ ворагаў мела многа, якія мне ўсё ўскладнялі.

Надрукуйце гэта ў „Ніве", няхай людзі ведаюць, як я будавала для маіх ворагаў.

**Люба Аляксюк**
**Белавежа**

## Узнагарода фотааматару з Нараўкі

Журы пад старшынством фатографа-мастака Віктара Волкава падвяло вынікі VII Агульнапольскай фатаграфічнай выстаўкі дзяцей і моладзі Беласток'95. Удзельнічала ў ёй 237 фотааматараў з усёй краіны. На выстаўку былі прыняты 232 фотаздымкі 123 аўтараў.

Прыемна нам адзначыць, што сярод удзельнікаў ва ўзросце да 15 гадоў трэцюю ўзнагароду здабыў фоталюбіцель **Войцех Пацэвіч**, які займаецца ў гуртку фотааматараў у Гмінным асяродку культуры (ГОК) у Нараўцы, пад кіраўніцтвам мясцовага настаўніка Валянціна Кандрацюка.

Нараўчанскі фоталюбіцель выслаў на выстаўку падборку здымкаў пад загалоўкам „Захад сонца".

**(ця)**

## АБ'ЯВА

Гарадская ўправа ў Беластоку нойме памяшканне з прызначэннем для двухмоўнага, польска-беларускага самаўрадавага прадшколля. Памяшканне або некалькі памяшканняў, распалажаных побач сябе, плошчаю ў 150 кв. м з кухоннай базай і прабіральняй, павінна знаходзіцца ў цэнтры горада.

За дэталёвымі інфармацыямі можна звяртацца па тэлефонах: 633-580 або 421-105.

# АПОРА НАЦЫІ

У апошнюю суботу мая г.г. я з жонкай Клаўдзіяй паехалі ў Гайнаўку пабачыць, як будуецца Музей беларускай культуры, паколькі жонка яшчэ наогул гэтага аб'екта не бачыла. Дзень быў сонечны і я крышку баяўся, што ў музеі нікога не будзе ў сувязі з уік-эндам. Тады, думаю, пакажу жонцы пабудову звонку і сам успомню, што там было некалькі гадоў таму, калі яшчэ мяне туды запрашалі, і што ёсць зараз, ды падамося назад.

Якое ж было маё задавальненне, калі ўвайшоўшы нейкім заднім ходам і шукаючы прыёмную пачуў я чалавечыя галасы — жаночы і мужчынскі. Божа, — бачу, — ёсць сапраўды прыёмная, а ў ёй маладзенькая прыгожая дзяўчына і такі ж хлопец — працаўнікі музея.

— Вы мелі шчасце, што прыехалі сёння, бо пан Майсеня толькі ўчора вярнуўся з паездкі, — сказала дзяўчына, а хлопец сарваўся з крэсла, каб адчыніць мне дзверы ў кабінет старшыні Камітэта пабудовы музея.

Сп. Кастусь Майсеня, як заўсёды ветлівы, сустрэў мяне і пазнаёміў са сваімі супрацоўнікамі, з якімі, нягледзячы на паабедні час, вёў нараду. Сярод удзельнікаў былі экскурсавод Аляксей Харкевіч і інжынер Янка Карпюк з Забагоншчыны. Мне стала нялоўка, што мяшаю ў нарадзе, але сп. Майсеня спыніў мае апраўданні і паслаў па жонку.

Пакуль мы вярнуліся, на стале ўжо стаялі шклянкі з чаем. Потым нам паказалі музейныя памяшканні, у якіх ужо, так сказаць, можна жыць, і нашы сэрцы напоўніліся радасцю. Але калі мы ўбачылі, што яшчэ трэба зрабіць, каб музей быў гатовы служыць гораду і беларускай нацыі, дык на мяне найшлі сум і думка, што быццам бы людзі маіх гадоў не змогуць палюбавацца ўзводжанай апорай беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Калі Аляксей Харкевіч з гонарам падтрымоўваў расказ Майсені аб ужо існуючай танцавальнай і глядзельнай залах, а Міхал Голуб цешыўся праекцыйнай апаратурай і кабінай кінаапаратара, мне ў вушах гудзеў папярэдне пачуты сказ, што музей быў бы закончаны ў канцы гэтага года, калі б было адкуль узяць трыццаць мільярдаў злотаў, няхай сабе і старых. Ужо пад сам вечар дайшоў да нас Васіль Сакоўскі, які расказаў нам аб актыўным удзеле моладзі белліцэя і гайнаўскіх актывістаў пры пабудове гэтага аб'екта.

Развіталіся мы, калі сонейка апускалася нанач, а гайнаўляне густа таўпіліся на вуліцах свайго горада. Едучы дамоў мне надалей было сумна, але калі прыгадаў адзін Майсенеў расказ, зноў у сэрца ўлівалася надзея. Ён сказаў так: „Калі б усе польскія ўлады так нам спрыялі, як бурмістр Гайнаўкі Ядвіга Рудзінская-Патэюк, то мы б ужо даўно закончылі гэтую пабудову".

Так раздумваючы над нашым лёсам, насоўваецца неабвяргальная ісціна: Царква з'яўляецца апорай праваслаўя ў Польшчы, а гэты Музей будзе апорай беларускай нацыі. У гэты момант хочацца крыкнуць: Народзе, дапамажы сам сабе існаваць і жыць!

**Васіль Петручук**



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# Беларускі Асагара

Першыя каментарыі, якія паказаліся ў польскай прэсе пасля выбараў і рэферэндуму ў Беларусі, далі вельмі адмоўную ацэнку беларускаму грамадству. Сапраўды, звыш 80% галасуючых за ліквідацыю свае незалежнасці можа толькі здзіўляць і выклікаць іранічную ўсмешку. Варта, аднак, больш дакладна прыглянуцца таму спектаклю, які 14 мая адбыўся на Беларусі. Па-першае: не пайшло галасаваць каля 37% грамадства, па-другое: 20% галасуючых выказаліся — свядома — супраць шаленстваў кіраўнікоў дзяржавы, а асабліва прэзідэнта Лукашэнкі. А гэта абазначала, што не 80% беларусаў, а толькі 45% упаўнаважаных галасаваць грамадзян Рэспублікі Беларусь фармальна падтрымала Лукашэнку. Менш чым палова! Згодна з абавязваючым законам аб рэферэндуме, вынікі галасавання з гэтай прычыны не лічацца важнымі і паводле права нельга іх успрымаць як абавязваючыя да рэалізацыі. Але Лукашэнка і яго акружэнне ніколі не кіраваліся законамі, калі яны ім былі нявыгадныя. Фармальна, каб змяніць дзяржаўны сцяг, герб і мову, патрэбна ўхвала адпаведная пастанова Вярхоўнага Савета. Лукашэнкаўцы, нават не чакаючы аб'яўлення вынікаў рэферэндуму, знялі і паганьбілі нацыянальны сцяг.

Спачатку думалася, што вяртання Савецкага Саюза чакалі толькі беларусы. Ліст галоўнага рэдактара польскага тыднёвіка „Głos znad Niemna" Эўгеніюша Скрабоцкага ў рэдакцыю „Gazety Wyborczej" (nr 116) паказвае, што аднолькава выказаліся падчас рэферэндуму і галасавання беларускія палякі. Галасавалі яны не на кандыдатаў Саюза палякаў на Беларусі, а на старшынёў калгасаў,ураднікаў Лукашэнкі і камуністаў.

Варта таксама звярнуць увагу і на тое, што асноўная маса актыўных выбаршчыкаў — гэта пенсіянеры, якім разабрацца ў тэхніцы адказаў на пастаўленыя ў рэферэндуме пытанні было проста немагчыма. Канструкцыя пытанняў і адказаў стварала цяжкасці ў арыентацыі нават адукаваным выбаршчыкам. Калі хтосьці быў супраць, мусіў крэсліць „за", калі хтосьці падтрымліваў Лукашэнку павінен скрэсліць „супраць". На практыцы неабходнымі дарадчыкамі былі члены выбарчых камісій, у якіх зрэдку сядзелі людзі ад апазіцыі.

Калі ўлічыць да гэтага нахабную прапаганду, якая бязупынна вялася ва ўрадавых сродках масавай інфармацыі і прадстаўляла нацыянальныя сімвалы і апазіцыю на адным узроўні з гітлераўскім фашызмам, вынікі рэферэндуму перастаюць здзіўляць. Кампраметацыі Беларусі ў свеце вінаватая перш за ўсё дзяржаўная ўлада, а асабліва прэзідэнт Лукашэнка, які паставіў пытанне тыпу: „Ці хочаце вы жыць", а пасля хлуснёй і дэмагогіяй пераконваў пенсіянераў, каб адказалі: „Не хочам жыць".

Вынікі ягонай дзейнасці ёсць дакладна такія самыя, як нейкага Сёкі Асагары, якога нядаўна арыштавала японская паліцыя. Там, аднак, Асагара і паліцыя былі па розных баках лініі фронту. У Беларусі Лукашэнка распараджаецца ўсімі сілавымі структурамі. І гэта ёсць асноўная драма беларускага народа.

**Яўген Міргановіч**

# З дзённікаў С. Яновіча

**1992 - 05 - 31.**

Наколькі неглыбокім быў беларускі рух пад эгідаю БГКТ, паказвае цяперашняя нацыянальная сітуацыя сярод пакалення не так даўняй моладзі, якое сёння пераняло цэласць жыцця. Яно апалячэлае — з рэшткавай свядомасцю прыблізнай беларушчыны (— у гадах маіх дзяцей). А пра ўнукаў, дык ужо і гаварыць не даводзіцца: Polak mały na сто працэнтаў. Праваслаўная царква перастала быць антыасіміляцыйным фактарам; бацечкі — акрамя літаральна двух або трох — ужо з польскай культурнай свядомасцю ў нас, а іх дзеткі то і не разумеюць rus-kiego gadania. (...)

Канцэпцыя польскамоўнага беларуса мяне не цікавіць. Патрыёт, які не хоча ведаць мовы нацыі, гэта не патрыёт, а нацыянальны камбінатар.

**1992 - 06 - 25.**

Візіт у Беласток Станіслава Шушкевіча ў ролі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — як свята! Такое цырымоніі вакол беларускіх гасцей тут яшчэ не бачылі; урадавыя лімузіны з бел-чырвона-белымі сцяжкамі імчалі па вуліцах, на якіх паліцыя запыніла дзеля гэтага ўсякі транспартны рух.

На афіцыйным снеданні ў гатэлі *Leśny*. Шчасліва пасадзілі мяне побач Васіля Быкава. Папытаў ён мяне, што я думаю пра... Аляксандра Амільяновіча і Аляксандра Баршчэўскага. Божа (...). У самога Быкава блага са здароўем (сэрца). І нярадаснае ў яго прадчуванне лёсу Рэспублікі Беларусь (імперскасць Расіі). (...)

Ад нас — Алег Латышонак, Ян Чыквін, Пятро Юшчук, Вяслаў Харужы, Баркі (...).

У супрасльскай царкве ўладыка Сава закончыў слова да высокіх гасцей воклічам *Жыве Беларусь!* Ажно ў галаве закруцілася мне ад нечаканасці (...).

Перад гайнаўскай царквою — натоўп; ахоўнікі, блізкія панікі, нікога з пабочных не пускаюць у сярэдзіну. Святар Дзевятоўскі вітае Шушкевіча як прэзідэнта Беларусі і дае (сэнсоўную) інфармацыю ў неблагой беларускай мове, з выразным патрыятычным падтэкстам (слухае і экзарх Філарэт, карэнны расіянін). Добры хор, рэгент. Калі заспяваў *Магутны Божа*, за Шушкевічам усталі ўсе з лаваў (уражанне мусіла быць немалое; праслязіўся ён).

Бельскі ліцэй. Тут схапіў мяне інсулінавы голад. Зашыўся я ў кут, чакаючы вяртання ў Беласток.

— Сустрэча з прадстаўнікамі беларускіх дзяецкіх асяроддзяў у канферэнцыйнай зале Ваяводскай Управы набыла шматлюдны характар (больш сотні). Выступілі: Краўчанка, Быкаў. У аднагадзінны ліміт часу пытанняў да Шушкевіча не магло быць занадта. З сэнсам выступіў Мікола Гайдук, наконт даступнасці тэле- і радыёперадач, друку, кніжак (вядома, з РБ); няблага і Янка Сычэўскі, крыху лішне даносячы на польскія ўлады наконт трактоўкі імі БГКТ; я і Юрка Латышонак — пра ўтварэнне ўрадавага Цэнтра беларускай культуры ў Беластоку (што ўспрынялі прысутныя апладысментамі). З'явіліся — Мікалай Тарасэвіч (адабраць Вільню!) і Сяргей Мартынюк (рэкламаваў свой „Pronar"... і цыбулю). Баркі ж занудзіў прэтэнзіямі, чаму Беларусь так памалу беларушчыцца. (...)

Пасля ўсяго ваявода Пруціс распытваў у мяне, ці добра ён арганізаваў гэты візіт. Я, вядома, хваліў, але і не мог пазбыцца здагадкі, што ён глядзіць на мяне як на стаўленніка Менска (...). А ў мяне ж няма найменшае ахвоты вязацца з *саветамі*; на падобнай дружбе з імі пагарэў не адзін беларускі дзеяч.

**1992 - 07 - 01.**

Пятро Юшчук надумаўся ініцыяваць беларускую *арганізацыю арганізацыяў*, на месцы Рады Беларускіх Арганізацыяў, нефармальнай, без юрыдычнай самастойнасці. На сённяшнім сходзе абмеркавалі статут; прынялі маю прапанову назвы: Беларускі Саюз у Польскай Рэчыпаспалітай. Пачнецца працэс рэгістрацыі. (...)

*(Працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— інсулінавы голад у дыябетыкаў ад раптоўнага зніжэння ўзроўню цукру ў крыві; стан блізкі знепрытомненасці; ратунак у хуткім прыняцці кавалка цукру або шакаладу;*

*— дружба з „саветамі" свядомым беларусам заўсёды канчалася трагедыяй, што было вынікам нашага неразумення сутнасці камунізму, мэтай якога лічылася сусветная рэвалюцыя, а не, напрыклад, будова свабоднай Беларусі; беларускі рух выкарыстоўвалі „саветы" не інакш, як толькі дзеля нейкай, карыснай ім, дыверсіі супраць кагосьці, а ў сябе бязлітасна знішчаючы ўсенька беларускае; у выніку маем сёння такую сітуацыю, што першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, А. Лукашэнка, цярпець не можа... БЕЛАРУСКАЙ мовы, чым заслужыў сабе на іранічныя анекдоты ў нявараварскай Еўропе.*

# ПАД ПАГРОЗАЙ ВЫНІШЧЭННЯ

*Працяг са стар. 1*

колькі ў Майданку, Трэблінцы. А колькі нашых людзей ляжыць па пясках, па равах. Я мог бы загадаць майму народу пакінуць Польшчу і на працягу сутак аднае душы тут не засталося б, але гэта ж наша краіна, мы хочам тут жыць.

**Я. Пачкоўскі:** — Калі мы звярнуліся да кялецкага ваяводы з просьбай прыдзяліць нашаму таварыству якое памяшканне, адказ быў: „Вы багатыя, можаце сабе купіць". Таму сядзіба таварыства ў маёй кватэры. І аднойчы туды — якраз адзначалі мы другую гадавіну смерці маёй маткі, дык былі госці, але як то на памінках, спакойна, без спеваў — перад поўначчу ўварвалася паліцыя. З газам, а там былі малыя дзеці, адно — месячнае. Напалохалі гасцей, а то былі якраз, апрача майго зяця, самыя палякі. Калі госці разышліся, а палове другой уварваліся яшчэ раз. Антытэрарысцкая група выбіла жалезныя дзверы, мяне і зяця кінулі на падлогу. Зяць трымаў тое месячнае дзіця, то пачуў: "Кінь яго, б...зь!" І зараз дастаў па галаве. Вывалаклі нас за ногі па лесвіцы, а на камісарыяце сказалі, што мы іх нашым сходам напалохалі. І спатрэбілася аж 25 паліцыйных машын, каб акружыць мой дом, каб перамагчы спалох.

**З. Квяткоўскі:** — Мы жывем пад пагрозай вынішчэння. Мы гаворым тут, у Варшаве, а я кожную хвіліну думаю, што там у маіх дзяцей, у Кельцах. Ці хаця нікому нічога не сталася. За апошнія два гады забілі нам трох маладых хлопцаў, па дваццаць пару гадоў. Парабілі ўдовамі жонак, асі-рацілі дзетак. Я забараніў маім людзям пасля змроку выходзіць на вуліцу, забараніў хадзіць у рэстараны. Як тут можна быць адважным, калі на 160-тысячных Кельцы нас — 250 асоб. Смерць можа спаткаць у любы дзень.

**Я. Пачкоўскі:** — Галота нас губіць. Забілі хлопца, ён у труне ляжыць, а тут прыходзіць банда і б'е ўсіх сабраных на паховінах. Паліцыя бярэ гэты зброд і зараз усіх выпускае.

*— Цыганы веруючыя людзі. Ці не дапамагаюць вам ксяндзы?*

**З. Квяткоўскі:** — Большасць польскіх цыганоў — гэта каталікі. Але ёсць сярод нас і пратэстанты, і іегавісты, і баптысты, і праваслаўныя. Хаця, трэба прызнаць, некаталікі — адзінкі.

**Я. Пачкоўскі:** — Я выхоўваўся ў Нарве, то хадзіў і да касяндза, і да бацюшкі, і да баптыстаў. Бацюшка хацеў мяне нават далей у духоўную школу паслаць.

**З. Квятоўскі:** — Мы верым у Госпада Бога, у Маці Божую, але ксяндзы, гэта такія самыя людзі як Вы ці я. Ксяндзы нам не дапамагаюць. Я ў Касцёл веру, але ксяндзам не. Божы слуга не можа хлусіць, а я маю досыць прыкладаў на тое, што ксяндзы хлусяць. Аднаго разу трапіў я ў дарожную аварыю. Наша аўто стукнуў спачатку „Жук" — па яго віне —, а потым папраўлі ксяндзы, якога гналіся 130 км у гадзіну. Згінуў 22-гадовы хлопец. Я ляжаў на аперацыйным стале сем гадзін, якасьці выжыў. Думаеце, ксяндзы расказалі праўду аб выпадку? А дзе там! Нас палічылі вінаватымі. Я яшчэ не веру ксяндзам і таму, што нічога з імі не дагаворышся, калі не дасі ў лапу.

*— Ці ёсць яшчэ надзея, што зноў паявяцца цыганскія табары?*

**З. Квяткоўскі:** — Табар ужо не вернецца. Мы, старыя, рушылі б у дарогу, але нашы маладыя ўжо інакш узгадаваныя. Ім трэба кватэра з мэбляй, прыгожае аўто. А я б не хацеў прыгожага дома, я б хацеў прыгожыя коні, музыку, танец. Калі б мы рушылі ў дарогу, вярнулася б наша прырода. Гэта нашае сапраўднае жыццё. Але наша моладзь ужо не рушыць з табарам. Маладыя цыганы баяцца лесу...

Запісаў
**Мікола Ваўранюк**

P.S. Мае суразмоўцы сказалі, што не бачаць патрэбы замяняць старое слова „цыган" новым „ром". У слове „цыган" няма нічога адмоўнага, як і ў словах „беларус", „паляк", ці „немец". „Ромамі" польскія цыганы называюць румынскіх цыганоў.




### Сакрату-ілгуну

З вялікім жалем трэба сцвердзіць, што сп. Сакрат Ягновіч у друкаваных у „Ніве" сваіх „Дзённіках" замест старацца праўдзіва адлюстроўваць падзеі нядаўняга мінулага (1989—92 г.г.), усё глыбей скочваецца ў выдумкі, ілгунства і паклёпніцтва.

Гэтак у н-р 21 (2036) ад 21 мая 1995 г. ён піша: „Наш праваслаўны пасол Яўген Чыквін, нябога, ужо прэзентуецца публічна як беларускі патрыёт (правільныя моўна выступленні піша яму Мікола Гайдук)..." Даруйце, але не магу сцярпець такога ілгунства крыноцкага ілжэпрарока (на Крыноцкай зямлі, як бачна, ілжэпрарокі не звяліся: прапаў Ілля Клімовіч — з'явіўся Сакрат Яновіч!) і заяўляю: ніколі ніякіх выступленняў сп. Яўгену Чыквіну я не пісаў і не пішу. Не так як многія дзяржаўныя і палітычныя дзеячы нашага краю, сп. Я. Чыквін такой дапамогі не патрабаваў і не патрабуе. Усе свае выступленні не толькі па радыё, тэлебачанні ці ў друку, але перш за ўсё ў Сейме, ён пісаў і піша сам без ніякай дапамогі іншых людзей.

Болей таго: яму, як галоўнаму рэдактару „Przeglądu Prawosławnego" даводзіцца ўвесь час скарачаць, папраўляць, дапрацоўваць, рэдагаваць артыкулы іншых аўтараў, журналістаў, у тым ліку і напісаныя мною, за што яму я вельмі ўдзячны. Калі і было маё нейкае дачыненне да яго выступленняў, дык толькі выключна да беларускамоўных і то адно па радыё. Раней напісаныя ім выступленні на польскай мове я перакладаў на беларускую, а цяпер толькі часам папраўляю іх беларускую мову і то не ў многім.

Заўважу, што сп. Я. Чыквін беларускай мове ў школе не вучыўся, сярэднюю і вышэйшую адукацыю здабыў у Варшаве. Калі і авалодаў беларускай гаворкай, дык гэта дзякуючы сваім намаганням: менавіта, як праўдзівы патрыёт ён свядома імкнецца авалодаць роднай мовай, глыбока спазнаць мінулае свайго народа, яго культуру, традыцыі — пра гэта найлепш сведчаць яго дзейнасць у Сейме, розных царкоўных і грамадскіх арганізацыях, многія яго артыкулы.

Сакрату Яновічу раю (і не толькі я адзін): спыні, Крацю, сваё плявузганне ды паліванне гноем нашага беларускага народу і яго лепшых людзей! Затрымайся! Ты ўсё болей аддаляешся ад беларушчыны!..

**Мікола Гайдук**



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# Дадому

Забралі мяне ў Германію ў шаснаццаць гадоў, — расказвае Ганна Фібік з Гайнаўкі. — Спачатку працавала ў Кёнігсбергу на лётнішчы, пасля былі мы ў Берліне і за Берлінам 13 кіламетраў, у Тэльтаве, да апошніх дзён вайны, у агародніка. Было там нас з ваколіц Гайнаўкі і Белавежы пятнаццаць дзяўчат і хлопцаў, былі французы, італьянцы, рускія, украінцы... Капалі мы зямлю, насілі на насілках гной, садзілі бручку, цвятную капусту, капусту, перасаджвалі... Ужо чулі гул ад фронту, нават крыкі „ўра!". Наш кухар, француз, казаў, што ходзяць чуткі, каб немцы сваіх нявольных работнікаў знішчылі. Паехалі мы ў кухню, каб узяць сабе ежу, і калі вярнуліся, француз схаваў нас у падвале. Праз паўгадзіны прымчалася машына з немцамі. Пытаюць кухара: „Дзе рабочыя?" Француз кажа: „Не ведаю. Учора чулі, як крычаць „ура", страляніна была, дык забраліся і пайшлі, кожны ў свой бок пабег. Куды падаліся, я не ведаю — я адзін, а іх столькі! Я тут кухар, *лагерфюрэр*, сказаць толькі магу, колькі тут іх было". Меў той француз жонку і дзве дочкі, адну хворую туберкулёзам, дык паставілі іх усіх пад сцяну і давай страляць ім перад носам: выдайце, куды падзеліся рабочыя! Нічога ім французы не сказалі, хоць смерць ім у вочы заглянула. А мы трасемся ў падвале. Немцы паехалі, але спярша палілі наш жыллёвы барак бензінам і падпалілі. Мы, хаваючыся, не ўзялі з сабою вопраткі і тае стравы, што прывезлі з кухні — уцякалі, як стаялі. Паглядзеў кухар, што немцы сапраўды з'ехалі, і папёр нас адчыняць. Кінуліся мы хто з вадой, хто з пяском, хто з вогнетушыцелем — пагасілі пажар, толькі клубы ўдушлівага дыму засталіся. Адчынілі мы вокны, і зноў наўцёкі — ідзе фронт, страляюць! Гу-гу-гу! — ажно падвал трасецца! Перад нашым баракам салдаты паявіліся, закрычалі „ўра!". Як пачула я тое „ўра", кінулася наперад, але сяброўка бух мяне паміж лапатак: „Куды прэшся! Хочаш, каб мы ўсе праз цябе загінулі!" Крычу: „Гэта ж рускія танкі, з зоркамі, выходзьма!" Выбеглі мы гурмой з падвала, бяжым да іх раскінуўшы рукі, крычым ад радасці. А з намі нямецкія дзяўчаты выходзяць, ціха паставалі. У апошні час прасілі нас вучыць іх рускае мовы. Пільнавалі нас яны былі пры працы, стаялі над намі, але добрыя дзяўчаты былі, дзеці бедных бацькоў, хаця апранутыя іначай чым мы ды абутыя. Пытаюць нас салдаты, што гэта за жанчыны. Нямкіні. Тады яны іх на шашу, паклалі іх адну галавою туды, другую туды. Нам шкада іх стала, жылі ж з імі, давай прасіць мы салдат, каб іх ашчадзілі, нічога кепскага ім не рабілі. А салдаты ў крык: „Што, гітлеровак шкадуеце?!" — „Яны для нас добрыя былі..." Але ніякай гаворкі не было. Усіх іх танкамі пераехалі...

Не паспеў быў наш кухар нам даць есці, тады давай нашы вызваліцелі нас карміць — далі мяса, каўбасы, нават гарэлкі. Пайшло гулянне. Мы, дзяўчаты з-пад Гайнаўкі і Белавежы, маладзейшыя, 26-ты *рочнік*, сціплыя былі, а рускія дзеўкі ахвотна пайшлі ў *тан* з землякамі. А калі салдаты лепш падпілі, то нават калі дзяўчаты не хацелі, то сілай бралі. Тады мы давай зноў у сховішча бегчы! Усю халодную ноч у блузачках трасліся, туліліся адна да адной. А тыя рвуцца да дзяўчат па двух-трох! Зайшлі мы ў адзін дом, каб нешта ўзяць з вопраткі, то іх пяцёх прыляцела, адзін лезе да дзяўчыны, а чатырох яе трымаюць. Нарабілі мы віску! Адзін нож выцягнуў, цяў мяне, трусы разрэзаў, а на мне іх аж тры пары былі, заюшылася я, і гэта быў мой ратунак: пусціў мяне, пачаў нейкай анучай абціраццa, каб не папэцкаць мундзіра. На наш крык прыбег афіцэр, закрычаў: „Вы сукины сыны, что вы делаете, вы может быть над своими сёстрами изнущаетесь! Такая свобода?!" Мы вырваліся вокнамі, а там пачалася стральба. Не да вопраткі нам ужо было! Куды цяпер нам ісці? Ужо не вярталіся на „сваё" месца, адразу рушылі ў бок бацькаўшчыны.

Нейкія вайскоўцы ехалі. „Куды едзеце, сястрычкі? Можа з нашых бакоў вы будзеце?" — „Так! Праваслаўныя, каталічкі, *размавітыя*, з нашага боку!" Ехалі яны ў тыл па бензін, узялі нас з сабою. Пасядалі мы на машыну з бочкамі, едзем. Пачаўся абстрэл. Кулі бах-бах-бах па бочках, мы папрытуль-валіся. Мне куля ў жакеце буфку адарвала. Едзем далей. Дошка, на якой сядзім, на адным завесе, соўгаецца па машыне, але якасьці едзем наперад. Уязджаем у лес, а там нейкая пасцель валяецца, пярыны, поўна пёраў, чамаданы... І людзі забітыя ляжаць, старэйшыя жанчыны, звалтаваныя дзяўчаты і маладзіцы, малюсенькія дзеткі ў клуначках плачуць. Аж сэрца разрываецца, калі глядзіш на гэта... Узялі мы трохі вопраткі і абутку з чамаданаў, бо амаль голыя ехалі.

На адной заставе затрымалі нашых дабрадзеяў: „Едзеце па вайсковай справе, і баб вязеце з сабою?! Гэтыя гадаўкі немцам дапамагалі на нас ружжо рабіць, а вы іх падвозіце? Звальвайце сволач з машыны!" Скінулі нас і загналі ў часць, на кухню. Парабілі мы там два дні, і я кажу дзяўчатам: „Уцякайма! Нам дадому трэба!" А пасля нас загналі да нямецкіх кароў. Дзень мы іх даілі, і зноў рушылі дахаты. Добры кавалак ехалі дрызінай. Пуці былі разабраны, чыгунка зруйнавана. Якасьці дабраліся да Кракава, а там ужо маглі сесці ў цягнік. З Кракава мы паехалі ў Львоў, потым у Высока-Літоўск. Хацелі мяне сябры пакінуць у сябе, але ж мне дадому трэба, у Семяноўку. Але я ўжо за мяжой! Пайшла я на адну заставу, другую, вярнулі мяне з-пад Белавежы. Урэшце ў Брэсце мне капітан сказаў, што рабіць. Пайшла я на кірмаш, прадала блузку, купіла бутэльку. Чыгуначнікі зачынілі мяне ў паравозе ў скрыні на вугаль, і так я пераехала мяжу. Пасля даехала да Чаромхі, да Гайнаўкі, а адтуль — у Нараўку. А з Нараўкі пешшу дахаты, восем кіламетраў...



*Ганна Фібік.*

Раніца. Хацела я зрабіць несподзяванку, пайшла агародамі. Убачыла мяне сяброўка, бегма пабегла ў вёску: „Гандзя Бірыцкая з Нямеччыны ідзе!" Пакуль я да вуліцы дайшла, збегліся людзі. Ужо маму паведамілі. Мама бяжыць з кошыкам пасярэдзіне вуліцы, задыхаецца: „Дзе ж яна? Дзе яна?" Я падышла, абняла мяму за шыю, прыгарнула да сябе. А людзі стаяць наўкол, глядзяць на нас, плачуць. Аж пасыпаліся пытанні: „Не бачыла майго сына? Мае дачкі?.." Правялі нас да хаты. А мама паціху кажа: „Аня, ты не размаўляй па-расейску, бо скажуць, што з байцамі валачылася!" — „Подожди, мама, потом научусь по-нашему, потом!" Я так навучылася ад дзяўчат з-пад Арла, бо ўсе мы якась мусілі дагаварыцца ў той міжнароднай кампаніі.

Пабыла я пару тыдняў у хаце. Сядзім з дзяўчатамі, аж тут праз Семяноўку нейкае войска ідзе. Ну, польскае войска, у мундзірах, з арламі. Набегла ў хаты жаўнераў, жартуюць з намі, просяць песню заспяваць. Мы ім рускую — паслухалі, хіба не вельмі спадабалася, і беларускую. То мы ім і польскія заспявалі. Праз тры дні мы даведаліся, што гэта былі акаўцы. І кухня з імі ехала, і вазы, увесь абоз, і ружжо, і столькі іх было! Накіроўваліся на Люблін. Ніхто па дарозе іх не чапаў. Польскае войска то польскае, і рускае ж яшчэ ёсць, зямля гарачая пасля вайны, і межы ж яшчэ не зусім зацверджаны. Чалавек не ведае, на чым стаіць...

Ай, шмат што чалавек забыўся. Гэта ж ужо пяцьдзесят гадоў! І памяць ужо не тая. Ды і людзей усё менш, што яшчэ памятаюць.

**Запісала МІРА ЛУКША**
**Фота аўтара**

# З МІНУЛЫХ ДЗЁН

*(працяг; пачатак у 21 н-ры)*

### Напад на Стоўбцы

Мой бацька, Юстын (1890 года нараджэння), з 1911 па 1916 год служыў у царскім войску і прымаў удзел у І сусветнай вайне. Ваяваў ён на цэнтральным нямецка-расейскім фронце, даслужыўся звання фельдфебеля і двойчы атрымаў раненне. У канцы 1916 г. пасля цяжкога ранення быў звольнены ў запас. Рэвалюцыю і абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі бацька сустракаў у беларускіх ваенных фарміраваннях у Менску. У час польска-бальшавіцкай вайны знаходзіўся ён дома.

Устанаўленне дзяржаўнай мяжы паміж Польшчаю і бальшавіцкай Расеяй жыхары Кучкуноў прынялі з вялікай трывогаю. Па закліку беларускіх патрыётаў змагацца за вызваленне Беларусі з-пад бальшавіцкага прыгнёту многія жыхары навакольных вёсак апынуліся сярод змагароў слуцкага паўстання. З кастрычніка 1920 па 1921 г. мой бацька змагаўся ў ваколіцах Слуцка і Капыля, а ў канчатковай фазе паўстання служыў пад камандай генерала Станіслава Булак-Балаховіча. Без вонкавай дапамогі паўстанне было прыгаворанае на паражэнне. Польскія ўлады не стрымалі абяцання аб вайсковай дапамозе і слуцкія паўстанцы былі вымушаны перайсці на польскі бок мяжы. Тут іх абяззброілі і інтэрнавалі. Тыя змагары, якія паходзілі з вёсак, што апынуліся на польскім баку, былі адпушчаны дамоў. Майму бацьку пашанцавала, бо дзякуючы хадайніцтву генерала Балаховіча атрымаў ён пасаду лесніка (гаёвага) у дзяржаўным лесе каля роднай вёскі. На гэтай пасадзе служыў ён да 1937 года, пакуль не звольнілі яго за беларускую дзейнасць, прапанаваўшы яму перанесціся ў іншую, аддаленую на 30 км, мясцовасць.

Пасля паражэння слуцкага паўстання яго ўдзельнікі вярнуліся ў вёску. З паловы 1921 г. у Кучкунах і ваколіцы стаў арганізавацца беларускі вызваленчы рух супраць Польшчы. Удзельнікі гэтага руху праводзілі розныя дыверсійныя дзеянні на чыгунцы, нападалі на польскіх асаднікаў ды гмінныя ўстановы. Не абышлося без ахвяр з абодвух бакоў. Непадалёк вёскі ва ўрочышчы Краснова было забітых двух жаўнераў, двух тайных паліцыйных інспектараў, некалькі паліцыянтаў і граф Кастравіцкі. У 1923 г. падпольныя падраздзяленні сілаю каля 100 салдат арганізавалі ўзброены напад на павятовы горад Стоўбцы. Партызаны спалілі адміністрацыйныя будынкі, занялі турму, вызвалілі вязняў і забілі некалькіх стражнікаў і паліцыянтаў. У радах заваёўнікаў не было строгай дысцыпліны і таму пачаліся грабяжы ў горадзе, разбіванне магазінаў, асабліва з гарэлачнымі вырабамі. Вялікую актыўнасць у рабаванні крамаў праявілі вызваленыя з турмы крымінальнікі. Стоўбцы знаходзіліся ў руках падпольшчыкаў амаль цэлыя суткі. Адбілі горад падраздзяленні польскай кавалерыі з Нясвіжа.

Жаўнеры хутка расправіліся з захопнікамі горада. Некалькі падпольшчыкаў трапілі ў палон, бо з-за ап'янення не змаглі ўцячы. Двух удзельнікаў нападу былі асуджаны ваенным трыбуналам і расстраляны. Адным з іх быў жыхар Заямнага па прозвішчу Гарачка. Потым пайшлі арышты сярод удзельнікаў нападу. У турму папалі многія жыхары Кучкуноў. Некаторыя вяскоўцы, каб пазбегнуць зняволення, уцякалі цераз мяжу ў савецкую Беларусь. Уцякаючы на беларускі бок, Васіль Віктаровіч з сястрой Надзеяй захапілі з сабой паліцэйскага агента і перавялі яго да саветаў. Большасць уцекачоў сталі ў трыццатых гадах ахвярамі сталінскіх рэпрэсій.

Астатнія жыхары вёскі былі падвергнуты рэпрэсіям з боку польскіх улад. У вёску прыбыў карны вайсковы атрад „пазнанякаў", быў устаноўлены каменданцкі час з 18 да 8 гадзіны раніцы, якія абавязваў шэсць месяцаў. Сяляне, якія ў сенакос ці жніво не прытрымоўваліся гэтага часу, падвяргаліся вычварным пакаранням. Скакалі яны „жабкай", зачынялі іх голымі ў арышце, нярэдка саджалі разам раздзетых мужчын і жанчын. Такое пакаранне прайшла і мая цётка Вера Пузіноўская разам з двума старэйшымі мужчынамі. Кожны дзень вяліся ў вёсцы вобыскі з мэтай знайсці зброю і вылавіць удзельнікаў нападу на Стоўбцы.

Жаўнеры жорстка абыходзіліся з дзяцьмі і маладымі дзяўчатамі, якіх застаўлялі чысціць канюшні і салдацкія прыбіральні. Напрыклад, у першы дзень праваслаўнага Вялікадня жаўнеры прымусілі дзяцей ва ўзросце 7—15 гадоў голымі рукамі выносіць конскі памёт.

Карны атрад пакінуў вёску пасля пратэстаў паслоў ад нацыянальных меншасцей. Скаргу ў Сейм напісаў і перадаў Іван Садоўскі — жыхар Яблынаўкі.

За салідарнасць з удзельнікамі ўзброенага нападу на Стоўбцы былі звольнены з работы ў пагранічнай ахове, паліцыі, на чыгуначнай станцыі і на пошце мясцовыя беларусы. Рэпрэсіі з боку польскіх улад прымусілі жыхароў вёскі прыпыніць палітычную дзейнасць.

*(працяг будзе)*

**Юстын Пракаповіч**



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# Зорка
## старонка для дзяцей

## Леў і мыш

Аднойчы ляснічы паставіў сеці на звярыну. Гэта была сетка з пятлёю. Калі звер наступіць на пятлю, тады разасланая на зямлі сетка падымаецца ўгару. У такую пастку папаўся леў. Разгледзеўся ён навокал, але ніадкуль чакаць дапамогі. Яму было страшна, што ён, кароль звяроў, апынуўся ў такім бязвыхадным становішчы. Думаў, каб яго тут ніхто не ўбачыў, але хутка з'явіўся ляснічы. Чалавек прыехаў машынай, а на машыне стаяла клетка. Леў ніколі клеткі не бачыў, але трэба было яму памірыцца з жыццём у клетцы.

Льва прадалі ў цырк. Там пачалася дрэсіроўка. Набліжаўся паказ. На спектаклі прывязалі яго тоўстай вяроўкай да дрэва. Тады прыбегла мыш і сказала:

— Памагу табе.

— Ты? Такая малая? Не вытрымаю ад смеху, яна мне паможа! Ха, ха, ха...

— Або я памагу, або цэлы век будзеш служыць людзям, — сказала мыш.

Леў задумаўся, не мог уцяміць, як такая малая істота можа яго выратаваць. Але ўсё ж такі варта спрабаваць.

— Цікава, як ты мне паможаш?

А мыш ужо ўзялася за работу. Перагрызла шнур і такім спосабам асвабадзіла льва.

Леў, калі ўбачыў свабоду, забыўся пра мыш і пра яе дапамогу, і колькі сіл у нагах памчаўся ў лес.

**Мар'юш Богунь**
**і Томэк Саевіч**
**вучні V класа**
**Пачатковай школы**
**ў Дубічах-Царкоўных**

* * *

**Ад аўтараў:** На ўроку беларускай мовы мы самастойна складалі казку пра льва і мыш. Вырашылі паслаць у „Зорку". Хочам паказаць сябрам з нашага класа, што варта вучыцца беларускай мове, бо яны, на жаль, гэтага не разумеюць.

* * *

**Ад рэдакцыі:** Прывітанне хлопцы! Вашая казка мне вельмі спадабалася. Думаю, што і ўсе дзеці з прыемнасцю яе прачытаюць. А вам напамінаю, што вы будзеце ўдзельнікамі штомесячнага конкурсу. Да хуткай сустрэчы, сябры!

## Спевакі з Махнатага



На здымку ўдзельнікі дзіцячага конкурсу „Беларуская песня '95" з Махнатага. Разам з дзецьмі — Малгажатай Кучко, Касяй Кучко, Пятром Германовічам і Юркам Семенюком — настаўніца беларускай мовы Анна Гаўрылюк. На гармоніку грае Сямён Карнілюк, музыкант з „Тыневічанак". На агглядзе праспявалі яны песні „Раннюю парою" і „Цячэ вада ў ярок".

**Тэкст і фота Г.К.**

<u>З гісторыі Беларусі</u>

## Хто такая Еўфрасіння Полацкая?

Еўфрасіння Полацкая — наша святая, якую здаўна шануюць як нябесную заступніцу беларускае зямлі. Вечную памяць і любоў народа яна заслужыла сваім ахвярным жыццём, прысвечаным асвеце нашых продкаў.

Яна прыйшла на свет на пачатку XII стагоддзя ў Полацку, у сям'і князя Святаслава-Георгія і даводзілася ўнучкай найславуцейшаму з полацкіх валадароў — Усяславу Чарадзею. Дзяўчынку назвалі старажытным полацкім імем Прадслава. Слава пра розум і прыгажосць полацкай князёўны разнеслася далёка па славянскіх землях. Калі Прадславе споўнілася дванаццаць гадоў (у такім веку дзяўчынка ўжо лічылася тады нявестаю), у Полацак зачасцілі сваты. Бацькі меркавалі выдаць князёўну замуж за сына нейкага слаўнага сваім багаццем і княжаннем уладара. Аднак Прадслава абрала сабе іншы шлях: вырашыўшы стаць Хрыстовай нявестаю, яна прыйшла ў манастыр і прыняла пострыг пад імем Еўфрасінні.

Спачатку маладая манашка пасялілася ў келлі Сафійскага сабора. Тут яна перапісвала і перакладала з іншых моваў кнігі і, як лічаць некаторыя гісторыкі, вяла Полацкі летапіс. Праз колькі гадоў духоўнага ўдасканалення яна заснавала ў Полацку жаночы, а затым і мужчынскі манастыры. Пры іх Еўфрасіння адчыніла скрыпторыі — майстэрні па перапісванні кніг, а таксама школы, у якіх дзеці авалодвалі граматай, вывучалі гісторыю, грэцкую і лацінскую мовы, спасцігалі навуку красамоўства.

Асветніца збірала вакол сябе таленавітых людзей, і таму яе можна назваць нашай першай мецэнаткаю. На яе заказ полацкі дойлід Іаан пабудаваў сусветна вядомую царкву Спаса, а ювелір Богша (хрысціянскае імя Лазар) стварыў крыж — бясцэнную святыню беларусаў.

Унучка Усяслава Чарадзея ўздымала свой голас супраць княжацкіх міжусобіц, папярэджвала, што братазабойчыя войны могуць прывесці Бацькаўшчыну да гібелі. Прыклад асветніцы натхняў яе землякоў і наступнікаў Францішка Скарыну, Васіля Цяпінскага, Сымона Полацкага...

Мошчы святой Еўфрасінні спачываюць у Спасаўскай царкве полацкага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. Дзень памяці нябеснай заступніцы Беларусі святкуецца 23 траўня (5 чэрвеня паводле новага стылю).

*(100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі)*

## Сястрычкі з Масева



Эва і Віёля Цыганікі жывуць у Масеве І. Эве ўжо 7 гадоў, і едзіць яна ў пачатковую школу ў Нараўцы ў „нулявы клас", а разам з ёю яшчэ тузін іншых дзяцей з гэтай вёскі. А яе сястрычцы — пяць з паловай гадзіка. Здымак я зрабіла ім каля пажарніцкага дэпо — „рамізы", на даху якой пара буслаў мае сваё гняздо.

**Міра Лукша**
**Фота аўтаркі**

## Вершы Віктара Шведа

### ЦЯЖКАЯ ПРАЦА НАДЗІМАЦЬ МАТРАЦЫ

Прывезлі з летніх канікул сыночка,
У хаце мама яго спытала:
— Маеш такія поўныя шчочкі,
Вас там кармілі так дасканала?

— Нас там кармілі, мама, пагана,
А да таго яшчэ меў многа працы.
Ролю такую далі нечакана
Каб надзімаў сваім сябрам матрацы.

### СУПОЛЬНАЯ ДВОЙКА

Бацька азваўся вельмі бойка:
— Скажы, лянівы мой сынок,
Завошта нечакана двойку
Дастаў у школе, абібок?

Сынок на гэта блізкі плачу
Татульку слоўны даў адбой:
— Дык за дамашнюю задачу,
Што вырашалі мы з табой.

### МАЛЫ ЯК СТАРЫ

Выйшаў дзядуля на падворак,
Сусед папаў яму пад рукі.
Дзядуля кажа: — Толькі ўчора
Я ўпершыню сустрэў унука.

Ён тоўсты, лысы і бяззубы,
Бутэлечку бярэ заўсёды.
— Колькі ж год мае ўнук ваш любы?
— Яму ўжо стукнула паўгода.

### ПЕСЕННАЯ ПАЛОСКА

## Пагоня

d g A
Толькі ў сэрцы трывожным пачую,
d g A
За краіну радзімую жах, —
g C F A d
Успомню Вострую Браму святую } 2 х
g A d
І ваякаў на грозных канях.

У белай пене праносяцца коні,
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць
Старадаўняй Літоўскай Пагоні } 2 х
Не разбіць, не спыніць,
не стрымаць.

У бязмежную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады.
Вы за кім у пагоню спяшыце? } 2 х
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо яны, Беларусь, панясліся
За тваімі дзяцьмі ўздагон,
Што забылі цябе, адракліся, } 2 х
Прадалі і аддалі ў палон?

Біце ў сэрцы іх — біце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі } 2 х
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці-Краіна!
Не усцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач. Ты прымі свайго сына, } 2 х
За Цябе яму ўмерці дазволь!

Усё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні } 2 х
Не разбіць, не спыніць,
не стрымаць.



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

## Дзіцячыя малюнкі



Вучні II-га класа Пачатковай школы ў Чыжах даслалі свае малюнкі да казак, з якімі яны пазнаёміліся на ўроках беларускай мовы. „Зорка” дзякуе ўсім дзеткам і дасылае ім кніжачкі для размалёўвання.

У гэтым нумары друкуем малюнкі двух юных мастакоў. Уверсе змяшчаем ілюстрацыю Яся Сямяцкага да казкі „Леў і воўк”, а ўнізе — малюнак Паўла Мароза паводле казкі „Зайчыкі”.



## Вучнёўская творчасць

### Вясна

Вясна, вясна
Ужо да нас прыйшла.
Трава зелянее,
Усё прыгажэе,
Птушкі прыляцелі,
Дрэвы зашумелі,
На двары цяплей
Навокал стала прыгажэй.

**Адрыян Крукоўскі**
**Пачатковая школа н-р 3**
**у Бельску-Падляшскім**
**клас IV „е”**

### Вясна

Вясна гукае вакол нас
Вясной кветкі зацвітаюць
Вясной трава зелянее
Вясной сонца вышэй
падымаецца
Вясной прылятаюць
Буслы, шпакі з выраю
Вясной усё ажывае

**Моніка Мельнік**
**Пачатковая школа н-р 3**
**у Бельску-Падляшскім**
**кл. IV „е”**

## „Вясёлкі” з Кленік



„Вясёлкі” з Кленік прыехалі з цікавым рэпертуарам. Як адзіныя заспавалі вяснянку. Песня ў іх выкананні гучала чароўна.

Пра „Вясёлку” „Зорка” ўжо пісала раней, бо гэтыя спевакі выступалі на аглядзе каляднай песні ў Драгічыне.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### Мышка і госці

У Веранічкі шмат сяброў і сябровак, але не ўсе яны прыходзяць часта да яе дахаты.

— І добра! — уздыхае мышка Пік-Пік, — а то ніводная істота не магла б тады знайсці сабе спакойнага месца!

Уздыхае, але з другога боку, нягледзячы на страшны гвалт у хаце, тупат, піскі, гучную музыку (у мышчынай хатцы аж сыплецца пыл са столі!), небяспеку трапіць пад абцас ці ў чэпкія пальчыкі госця, з прыходам Вераніччыных сяброў звязана шмат цікавага, прыемнага і смачнага — то арэшкі, то хрумсцікі, то цукерачкі, то пернічкі, то сланечнікавыя зярняткі, якія дзеці вельмі любяць, то палачкі соленыя або з макам... Такое смакоцце! Пік-Пік нават не мусіць прасіць ці выманьваць ласункі ў гасцей — дзеці, занятыя гульнёй, раскідаюць усе гэтыя скарбы па пакоі, і хопіць Пік-Пік толькі працягнуць лапку перад норкай, і ў яе заўсёды штосьці трапіць! А найчасцей „мышкуюць” Пік-Пік разам з Максімкам па хаце, на іх ніхто не звяртае ўвагі, і што малеча не паспее ўхапіць у свой усеёдны слінявы роцік ці ў тлустую лапку, дастаецца яго сяброўцы.

Дзеці найчасцей прыходзяць па адным-двое з бацькамі. Таты і мамы займаюцца размовай, іграюць на гітары ды спяваюць песні, чытаюць вершы, п'юць гарбату. Але, бачыце, якая хітрасць і крывадушнасць! — хопіць дзецям толькі разгуляцца, як дарослыя ўжо бягуць, падымаюць, забіраюць найбольш цікавыя рэчы, выціраюць, раздзяляюць, і не часта гладзяць тады па галоўцы, а трэплюць пад хвосцік!

Пры некаторых гасцях мышка ведае, што спакойна можа паказацца — ведаюць яе і вялікія, і малыя. Праўда, сярод гасцей таты і мамы амаль усе разумеюць, што можна ў сярэдняй гарадской кватэры трымаць звычайнага шкоднага грызуна, але ўсе глядзяць на тату і маму з нейкай зайздрасцю: паглядзіце, як ім добра жывецца — за сціплыя ганарары могуць выкарміць усю сям'ю з коткай і нават такую тоўстую мыш! Значыць, ёсць у людзей магчымасці!

Пік-Пік любіць, калі наведвае іхні дом дзядзька Зміцер, нават калі ён адзін, без цёці Іны і малое Леры. Дзядзька складае песні для дарослых і дзяцей, мышка не раз чула іх па радыё. Аднойчы пазвала яго ад стала ў татаў кабінет, пасадзіла на канапу, прысела побач і паставіла пытанне:

— Дзядзя Змітрок, калі напішаце песню для мяне?

— Кожная ж мая песня можа быць для цябе. Голас у цябе някепскі, сапрана цягнеш.

— Я думаю пра добрую песню пра мяне.

— Я пішу толькі добрыя песні, — дзядзька Зміцер любіць пахваліцца.

— Гэта каб словы добрыя былі пра мяне, пра маю красу, кемлівасць, ідэі, прыгоды...

— Няхай табе Віктар, тата, напіша. Ён паэт выдатны. І вершы зразумелыя піша, і мне песні добра на іх складаць. Вось паслухай, „а ў гасцях, а ў гасцях шум і тлум...”

Тут раптам штосьці зашумела, загрукала, затупала, і з другога пакоя стрымгалоў убегла Веранічка, уся ў слязах і загаласіла:

— Тата, тата, паглядзі, а ў мяне ножніцы ўсю грыўку з'елі!.. Бу-у-у!

За Веранічкай увайшла Лера з ножнічкамі ў далоні. Яна была большая за Веранічку, і паводзіла сябе больш стрымана і сур'ёзна. А цяпер трымала ў ручцы ножніцы!

— Я рэзаць хачу, дайце мне што-небудзь чыкнуць! — і схапіла Пік-Пік за хвост.

— Ой! — віснула мышка і звалілася на падлогу, выраўшы з Лерынай далоні свой хвосцік.

— Прыемна, калі ў хаце госці, але вострыя прадметы лепш ад іх схаваць! — мармытала Пік-Пік дрыжачым галаском у сваёй кватэры. І не думала ўжо сёння выходзіць з норкі, хаця там, з усімі, засталося столькі ўсяго смачнага!

**Цётка Міра**

### Нябесны пастух

Нядаўна воблакаў атару
Ён пасвіў.
Зараз статак хмараў
Прыгнаўшы,
Час свой прабаўляе —
Маланкай-пугаю страляе.

### Жук і пчала

— Ты — пчала,
Я — майскі жук.
Так падобны мы, гляджу:
Ты жужжыш
І я жужжу.
Пачастуй мяне нектарам, —
Дзе ёсць кветкі, падкажу.

— Нездарма ж, усе гавораць:
Хітры жук ты!

— Жу-жу-жу...

**Станіслаў Валодзька**



Галаваломка. Падзяліце квадрат на такія фігуры, каб у кожнай з іх змясціліся па дзве кропкі.

**Даслаў Андрэй Гаўрылюк**



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# Боль кахання, боль смерці

*Працяг са стар. 1*

перажываннi звязаныя з iмi.

Каханне ў творчасці Багдановіча прымае вельмі разнастайны характар. Часта паэт разумее яго як пачуццё, дзякуючы якому чалавечая душа прымае сігналы т.зв. вышэйшай рэчаіснасці, калі разлічвае на вонкавыя пачуцці, інтуіцыю і абыходзіць „сляпы, абстрактны" розум. Часта адкрывае паэт перад намі тайну кахання, якое прабуджаецца толькі таму, што няма шанцаў споўніцца, якое ўзрастае, калі растуць перашкоды і корміцца ўласным цярпеннем.

Часта ў багдановічаўскіх творах каханне застаецца толькі ў сферы чакання ці жадання. Гэтае жаданне з'яўляецца несумненна формай адступлення ад рэальнасці і даручэння ўлады уяўленню. Ёсць своеасаблівай трансферэнцыяй у часе, праекцыяй думак лірычнага героя ў будучыню або ў мінуўшчыну.

Сваім зместам звяртаюць увагу м. інш. творы: „Маркотна я чакаю", „Калі паласу агнявую", „Купідон", „Агата". У творах „Купідон" ці „Агата" бачым, што мінуўшчына вяртаецца ў жывой форме, таму што яна, як рысуючыся вобраз, належыць да таго роду рэчаіснасці, якая заклікае да роздумаў, стварае настрой да рэфлексій.

Здараецца таксама, што Максім Багдановіч разумее каханне ў катэгорыі антыноміі сну і явы, таго што няўстрыманае і бясформеннае, і таго, што зрацыяналізаванае і засвоенае. Бачым пры гэтым, што паяўляючыяся час ад часу ў сонных марах ідэі кахання, з'яўляюцца ідэямі шчаслівага кахання, што ёсць поўнасцю зразумелае, таму што ява зусім часта ўсведамляла паэту боль і цярпенне, выкліканыя немагчымасцю здзяйснення праг („Набягае яно", „Маладыя гады").

Шмат таксама ў Багдановіча твораў, у якіх каханне застаецца толькі ў сферы насычанага драматызмам успаміну („Не знайсці мне", „Зорка Венера", „Ужо пара мне дадому збірацца"). Нашу ўвагу засяроджвае тут першы твор, у якім з любоўнага цярпення выплывае своеасаблівае ўсхваленне смерці. Калі лірычнае „я" ўсведамляе сабе трагізм свайго пачуцця, абуджаецца думка аб смерці, якая б была адзіным лякарствам на ўціхамiранне пякельных пакутаў сэрца.

Падобную лірычную сітуацыю назіраем у насычаным незвыклай эмацыянальнасцю творы „Цемень", у якім лірычны герой цярпіць з прычыны болю, які нараджае дыспрапорцыя паміж жаданым, а дасяганым, дзе бачым як гурвасцяца ягоныя душэўныя пачуцці. Сэнс жыцця пераплятаецца з яго бяссэнсасцю. Спачатку з'яўляемся сведкамі эпіфаніі, аб'яўлення, якое дазваляе на момант схапіць сэнс існавання ў цэлым багацці яго ўнутраных антыномій, бачым спробу пераносу цярпення лірычнага героя ў сферу sacrum і зраўноўвання яго з боскім цярпеннем. Потым зноў заўважаем душэўную агонію, знікненне веры ў магчымасць выйсця са смяротнай пустэчы і паварот да псіхічнага адранцвення:

*Я сяджу без агню. Я стаміўся,*
*прамок.*
*Нада мною — імгла, у душы маёй*
*змрок.*
*О, як пуста ў ёй! О, як халадна*
*жыць!*
*Але вось цераз цемень маланка*
*бліщчыць,*
*Асвятляе мне вобраз Хрыста...*
*яго крыж...*
*Ажываеш, здаецца, душою гарыш.*
*Але толькі чаму ж так малы*
*гэты час?!*
*Зноў навокал цемень! Свет зірнуў*
*і пагас.*
*Не глядзіць на мяне ясны вобраз*
*Хрыста,*
*Над зямлёю імгла, у душы пустата.*

*(„Цемень")*

Эратычная праблематыка ёсць таксама ў Багдановіча абшарам, на якім сустракаем сацыялагічныя залежнасці. Змяшчэнне лірычных герояў на двух процілеглых полюсах класавай іерархіі, што выразна бачым у паэме „Максім і Магдалена", падкрэслівала нараджаючыся ў сувязі з гэтым раскол, а знішчальная сіла пачуцця, стрыманага такімі а не іншымі сацыяльнымі патрабаваннямі, прыносіць тут матывацыю псіхалагічных элементаў твора. Таксама ўздыхі, сентыментальная ідэалізацыя, слёзы ствараюць атмасферу душэўнай чысціні герояў і адначасова з'яўляюцца праекцыяй цэлай гамы пачуццяў.

На ўвагу заслугоўвае таксама факт, што ў творы лірычныя высновы пераплятаюцца з рэфлексіямі, прынцыпамі паводзін, а тоны ляманту, у якіх утрыманы паасобныя фрагменты твора, узмоцнены ўвядзеннем стылізаваных на народную творчасць радкоў і шматлікіх памяншальных формаў:

*Мае дзетачкі, мае дробныя,*
*Вы наплачацесь, нагалосіцесь,*
*Бо не стане ў вас татачкі!*

*(„Максім і Магдалена")*

Настрой суму і маркоты, пачуццяў выплываючых з нязбытнага кахання прысутнічае ў іншых яшчэ творах („Вечар", „Сумна мне, а ў сэрцы смутак ціха запявае"), у якіх заўважаем, што яны пабудаваны на аснове прагнікання знешніх уражанняў, звязаных з паасобнымі фрагментамі пейзажу і выкарыстоўваюць сімволіку звязаную з раслінным светам.

Сваёй адметнасцю і эстэтычнай вартасцю звяртаюць увагу творы „У вёсцы" і „Вераніка" з цыкла „Мадонны". У фальклоры вобраз Мадонны амаль заўсёды спалучаўся з міфам багіні-зямлі, прыроды, багіні-маці. Пазней пад уплывам хрысціянства набывае новы сэнс, яднаючы зямлю з небам і становіцца сімвалам адухоўленага зямнога існавання, праобразам абноўленай райскай прыроды. У Багдановіча ў вобразе Мадонны спалучаюцца антыноміі. Нябеснасць спалучаецца з земскасцю, фізічнасць з душэўнасцю, чыстая прыгажосць з прозай жыцця. Гэтая дзяўчына, багдановічаўская Мадонна — гэта жывы праобраз прыгажосці і мастацтва.

*А можа, не краса была ў дзяўчыне*
*той, —*
*Дзяўчынцы ўпэцканай і хілай,*
*і худой —*
*А штосьць вышэйшае, што Рафаэль*
*вялікі*
*Стараўся выявіць праз Маці Божай*
*лікі.*

*(„У вёсцы")*

Уздымаючы праблему кахання, Багдановіч часта карыстаецца тыпам непасрэднай лірыкі, а яго лірычны герой адрозніваецца эмацыянальнымі адносінамі да свету. Часта таксама ёсць эквівалентам асобы паэта і звязваецца з ягонымі жыццёвымі дасведчаннямі, аспірацыямі. Гэтая лірыка насычана шматлікімі экспрэсіўнымі моўнымі сродкамі, тропамі-метафарамі, дзякуючы якім у дынамічны, канкрэтны спосаб прадстаўляе паэт псіхічныя станы сваіх лірычных герояў, параўнаннямі, сімваламі, багатай каларыстыкай. Часта Багдановіч, карыстаючыся жывапіснымі сродкамі, колерамі, выказвае пачуцці, а ў чэрні бачыць дамінуючую фарбу глыбокага суму, душэўнага болю.

*(заканчэнне будзе)*

**Бэата Капій**

# Мая малая айчына...

... гэта загаловак фатаграфіі ў блакіце Уладзіміра Ахрэменкі на выстаўцы прац Фатаграфічнага клуба „Крыніца" з Менска, паказанай у Беластоку.

Выстаўку арганізавалі Беластоцкі аддзел Таварыства супрацоўніцтва Польшча-Усход, Цэнтр гандлю і прамоцыі усходняга рынка, Клуб міжнароднага друку і кніжкі — суполка „Эмпік" і Беластоцкае фатаграфічнае таварыства.

Ужо ў час падрыхтоўкі выстава выклікала вялікае зацікаўленне наведвальнікаў клуба „Эмпік" і з тае прычыны была паказвана не тры дні (25-28.05.1995 г.), як было павядомлена на аб'явах, а два тыдні.

Больш пяцідзесяці аўтараў, 101 здымак, аповесці з жыцця Беларусі — афіцыйнага і прыватнага жыхароў краіны. Зрок узброены аб'ектыўным фотааб'ектывам бачыць і паказвае лірычна, сатырычна і чула, у колерах чорна-белых, у колерах жыцця, у сепіі.

Святлана Балашова, Сяргей Качэргін, Уладзімір Кавальчук, Алег Блізнюк, Уладзімір Ахрэменка, Уладзімір Эпштэйн, Васіль Каролік, Валеры Сульжыч, Сяргей Глоба, Аляксей Чупін, Аляксей Фяцісаў, Сяргей Урублеўскі, Рустам Хабібаў, Васіль Сенька, Мікола Марко, Анатоль Дудкін... Добрая фатаграфіка, на добрым еўрапейскім узроўні.

У **Святланы Балашовай** з вялікай чуласцю паказаны партрэты вясковых старых людзей, шмат цікавых партрэтаў мастакоў і эксцэнтрычных безыменных постацей, краявіды з уражваючым небам і зямлёй.

Ва **Уладзіміра Кавальчука**, аднаго з больш вядомых беларускіх фатаграфікаў (меў выстаўкі ў Нямеччыне, Іспаніі, Балгарыі) — запісы з жыцця вёскі (на здымку — „Партрэт мамы"), акты ў паўрэальным краявідзе. Выставу пачынае серыя ягоных чатырох здымкаў „Пляц Незалежнасці" з рваньмі берагамі.

**Сяргей Качэргін**, дзякуючы якому мы бачым у Беластоку плён працы крыніцаўскіх мастакоў, кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі (перайшоў у другі тур), апрача поўнага дынамікі здымка „Сын нарадзіўся!", даў сімпатычныя дзіцячыя партрэты і карыкатурны воблік вясёлага насатага дзядзькі. А ў Анатоля Дудкіна незвычайна прыгожыя, у колеры сены, як акварэлі, пейзажы Палесся, акты, уражваючы цыкл „Раўнадзенства".

Здзіслаў Рынкевіч, старшыня Беластоцкага фатаграфічнага таварыства (ён жа сам асабіста, уласнаручна рабіў выставу), сцвердзіў перад адкрыццём:

— На маю думку, найбольш спелыя, на еўрапейскім узроўні мастакі гэта Святлана Балашова, Уладзімір Кавальчук ды Анатоль Дудкін. Пра іншых не магу шмат сказаць, на выстаўцы прадстаўлены яны толькі па некалькі працаў. Сустрэліся мы з Сяргеем Качэргіным выпадкова ў Беластоку, рашылі бліжэй пазнаёміцца, наладзіць сувязі. Абяцаў ён прывезці нам выставу, а прывезлі дзве (другую хочам паказаць у час Свята беларускай культуры). Нам вельмі залежыць на тым, каб гэты абмен быў пастаянны. У Менску будуць паказваць маю персанальную выстаўку. Уладзімір Кавальчук ужо цяпер павязе мае працы ў Менск. Другая выстаўка „Крыніцы" будзе таксама ў „Эмпіку", таму што Беластоцкае фатаграфічнае таварыства не мае свае галерэі, нават свайго памяшкання! Клуб „Эмпік" наведвае шмат гасцей, тут цэнтр Беластока, арганізуюцца тут розныя курсы, так што выставу паглядзіць шмат нават выпадковых гледачоў. Выкарыстоўваем таксама нагоду эканамічна-гаспадарчых сустрэч, спалучаем бізнес з культурай. Звычайна ў гэтай зале вісяць нейкія старыя, нецікавыя ўжо плакаты. А паказваем фатаграфіку на вельмі добрым узроўні і мастацкім, і тэхнічным. Яна з пагранічча настальгіі па мінулым часе, і трохі футурыстычная, лірычная, пазбаўленая пафасу і маніі вялікасці, поўная раўнавагі і гармоніі. Гэта фатаграфія „лайв", жыцця, аддае атмасферу жыцця Беларусі.

Гэтая выстава пабывала ў Італіі тры гады таму. У Беластоку „Крыніца" першы раз, у Польшчы ўжо больш вядомая. Запрашаем — у „Эмпіку" (вугал Рынка Касцюшкі і Сянкевіча, другі паверх) можна будзе час ад часу пабачыць цікавыя выставы беларускіх фатаграфікаў. Месца ў самюткім цэнтры Беластока, кожны дзень можна заглянуць.

**Міра Лукша**
**Фота У. Кавальчука**



# Віктар Швед у Гародні

Найбольш вядомы беларускі паэт Беласточчыны Віктар Швед свой юбілей 70-годдзя з дня нараджэння адзначаў таксама і ў Гародні. Прыезд паэта ў горад над Нёманам выклікаў вялікае зацікаўленне тамашняга інтэлектуальнага асяроддзя, і зразумела, прэсы. Гродзенскія газеты пісалі пра творчасць паэта з Беласточчыны, адзначаючы і той факт, што з'яўляецца ён адзіным беларускамоўным пісьменнікам у Польшчы, які пастаянна піша свае творы для дзяцей.

„Гродзенская праўда" (ад 20 красавіка г.г.) пішучы пра сустрэчу Віктара Шведа з інтэлігенцыяй Гародні заўважае: „Нікога не пакінулі абыякавым вершы паэта, прысвечаныя роднай зямлі, сваім бацькам, цудоўнай прыродзе свайго краю, адкуль Віктар Швед чэрпае сілу ўсё свае творчае жыццё".

На словы вершаў Шведа было напісана каля 50 музычных твораў беларускімі кампазітарамі. Таксама падчас сустрэчы паэта з Беласточчыны з паклоннікамі ягонай творчасці ў зале абласной бібліятэкі імя Я. Карскага калектыў „Гасцінец" праспяваў некалькі песень на словы паэта.

Вялікае зацікаўленне паэзіяй Віктара Шведа ў Гародні сведчыць аб тым, што паэт з'яўляецца ўжо трывалым фактарам у нацыянальнай беларускай літаратуры.

**в. к.**



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# Пяцідзесятніца

*(Іаана 7, 37—52; 8, 12)*

У пяцідзесяты дзень пасля Вялікадня прыпадае вялікае свята Саслання Святога Духа на Апосталаў у Іерусаліме, дзень Святой Тройцы, званае яшчэ Пяцідзесятніцай або проста Сёмухай. Аб здарэнні, якое паслужыла ўстанаўленню свята чытаем наступнае: „І, як канчаўся дзень Пяцідзесятніцы, усе былі аднадушна разам. І раптам пачуўся гук з неба, быццам ад налятаючага буйнага ветру, ды напоўніў увесь дом, дзе яны сядзелі. І паказаліся ім падзеленыя языкі, быццам агнявыя, ды паселі на кожным з іх. І напоўніліся ўсе Духам Святым, ды пачалі гутарыць іншымі мовамі, як Дух Святы даў ім прамаўляць" (Дз. Ап. 2, 1—4).

Пяцідзесятніца была адным з трох вялікіх яўрэйскіх святаў, устаноўленым у памяць атрымання Майсеевага Закону ў пяцідзесяты дзень пасля выхаду з Егіпта. Для хрысціян — гэта дзень народзін Царквы, бо першае выступленне Пятра, знакі і цуды, пабожнасць і місійны энтузіязм былі вынікамі дзеяння Святога Духа; Ягоная моц сталася асноваю і пачаткам існавання Царквы. Невялікую грамаду Хрыстовых паслядоўнікаў Святы Дух пераўтварыў у Царкву, напоўніў Яе неабходнымі дарамі, ажывіў і да сённяшняга дня кіруе ейнай дзейнасцю. Пяцідзесятніца прынесла дар процілеглы да біблейскай драмы пабудовы Вавілонскай вежы. Моўная адметнасць ужо не дзеліць і не перашкаджае. Дар гутаркі на розных мовах быў практычным падрыхтаваннем да задання „ісці і навучаць усе народы" на іхняй, а не на чужой мове.

Пяцідзесятніца з'яўляецца таксама днём Святой Тройцы. У адной з малітваў Святога Васіля Вялікага, чытанай у часе вячэрні, гучаць словы: „У гэты апошні вялікі і збавіцельны дзень... Госпад выявіў нам тайну Святой Тройцы". Царква дзякуе ў гэты дзень Богу-Айцу, які паслаў Духа; дзякуе Адкупіцелю, што выпрасіў сасланне Духа і самому Духу, які зышоў на Апосталаў напаўняючы іх сваёю ласкай.

Тайна Святой Тройцы аб'яўлена ў дзень Пяцідзесятніцы зберагаецца ў Царкве праз усю яе гісторыю. У Царкве ўсё жыве і дыхае Тройцаю; усё на яе накіравана. Яна з'яўляецца фундаментам веры, крыніцаю існавання чалавека, пратаптаным і канчатковаю мэтаю. У святой Літургіі паўтараюцца словы: „Ласка Госпада нашага Ісуса Хрыста і любоў Бога і Айца, і супольнасць Святога Духа хай будуць з усімі вамі". Яны азначаюць, што Тройца ўдзельнічае ў нашым жыцці, благаслаўляе і падтрымоўвае ўсе пазітыўныя намаганні. Дух Святы, якога просім словамі малітвы, каб „прыйшоў і пасяліўся ў нас" з'яўляецца не гэтулькі пасіўным дарам, колькі прызваннем да творчай, збаўчай і асвячаючай дзейнасці. Творчая дзейнасць выяўляецца ва ўсім, што служыць дабру чалавека, у любой пазітыўнай актыўнасці, у мастацтве, навуцы, у мастацтве, ва ўладкаванні асяроддзя, у адабратварэнні міжчалавечых адносін. Вернікі маюць магчымасць удзельнічаць у збаўчым працэсе. У штодзённым жыцці ёсць месца на дабрыню і зычлівасць, спагаду і дапамогу. Калі з пачуццём некрывадушнага братэрства з іншымі людзьмі намагаемся аблягчыць чалавечыя пакуты, калі адчуваем сябе адказнымі за лёс незнаёмага чалавека — якраз гэтым пашыраем збаўчае тварэнне Хрыстовае.

Мы маем магчымасць удзельнічаць таксама ў асвячаючым дзеянні Святога. Што гэта значыць найлепш разумелі святыя Айцы, якія ў свой час былі маральным аўтарытэтам для народу. Мы не ў змозе падняцца да іх узроўню пераважна з прычыны ляноты. Тым часам у нашу працу, адпачынак і нават забавы належала б увесці духа праўды, справядлівасці і розуму. Тады з'явіцца цудоўная сугучнасць паміж чалавечымі імкненнямі і Божай воляй. Наша вера, якая „без добрых учынкаў — мёртвая", прынясе плён Духа: „любоў, радасць, супакой, цярплівасць, ветлівасць, дабрыню, вернасць, лагоднасць і стрыманасць".

Усё хрысціянскае жыццё, як нялёгкае але магчымае да ажыццяўлення прызванне, павінна быць знакам і сведчаннем Бога ў Тройцы. Яшчэ не можам сказаць пра сябе, што дасягнулі дасканаласць, але прынамсі імкнемся да яе. Таксама гэтак, як не бачым ветру, але вынікі яго нага подыху, Духам Святым адбываецца паступовае пераtварэнне свету. На першы погляд гэтага не бачна, але працэс ачышчэння і асвячэння працягваецца і свет нястрымана накіроўваецца да свайго прадвызначэння.

**а. Канстанцін Бандарук**

# Адно свята — тры назвы



Свята, якое адзначаем сёлета 11 чэрвеня, мае тры назвы: Пяцідзесятніца, Сашэсце (сасланне) Святога Духа на Апосталаў і Дзень Святой Тройцы.

**Пяцідзесятніца** — гэтая назва інфармуе, што здарылася яно пяцьдзесят дзён пасля Уваскрэсення Хрыста.

**Сашэсце Святога Духа на Апосталаў** — назва заключае ў сабе інфармацыю аб тым, што здарылася ў гэты дзень і ўспамінае пасланне Богам-Айцом Святога Духа, які сышоў на Апосталаў у выглядзе вогненных языкоў. Апосталы былі тады ў Іерусаліме у г.зв. сіёнскай святліцы, у якой ад Узнясення Госпада чакалі сашэсця абяцанага Духа-Суцяшыцеля.

**Дзень Святой Тройцы** або папросту **Тройца** — назва прыгадвае, што ў гэты дзень разам са з'яўленнем Святога Духа поўнасцю адкрылася тайна Святой Тройцы. Пачынаючы з гэтага дня людзі сталі верыць і ўслаўляць Бога Адзінага па сутнасці, але ў Трох Асобах — Бога-Айца, Сына і Святога Духа — Тройцу Адзінасутную і Нераздзельную. Царква адзначае і ўслаўляе ў гэты дзень усе тры асобы Святой Тройцы, прысутныя падчас Сашэсця Святога Духа. Бог-Айцец саслаў Святога Духа, Бог-Сын Ісус Хрыстос выпрасіў у Айца Яго сасланне і Бог-Дух Святы, які сышоў у выглядзе вогненных языкоў. Сашэсце Святога Духа на веруючых у Хрыста было канчатковым элементам выкуплення і збаўлення людзей Богам.

Так як цераз новазапаветную Пасху Хрыстову змянілася старазапаветная Пасха, так і новазапаветная Пяцідзесятніца замяніла старую Пяцідзесятніцу. Апосталы сталі гаварыць на розных мовах, якіх раней не ведалі і на якіх мелі распаўсюджваць па свеце святло веры Хрыстовай. Цераз сашэсце Святога Духа ўмацоўваецца хрысціянская вера і з таго дня пачынае сваё жыццё Хрыстовая Царква.

У гэты дзень пасля пропаведзі Апостала Пятра многія яўрэі, якія прыйшлі ў Іерусалім на свята Пяцідзесятніцы, раскаяліся, прынялі хрышчэнне і Царква са 120 вернікаў павялічылася да трох тысяч (Ап.Дз., 1:16, 2:1-41).

Другі дзень Сашэсця Святога Духа называецца **Днём Святога Духа.** Яго ўстанавілі для ўслаўлення Бога-Духа Святога ў процівагу навукі ерэтыкаў, якія адкідалі яго Боскасць і сутнасць з Богам-Айцом і Богам-Сынам.

Субота перад Пяцідзесятніцай называецца **Троіцкай памінальнай суботай.** У гэты дзень шануем памяць усіх памерлых праваслаўных хрысціян з верай, што цераз сасланне Святога Духа завяршыўся адвечны план Божага збаўлення людскога роду, у якім прымаюць удзел таксама і памерлыя.

Тыдзень пасля Сашэсця Святога Духа на Апосталаў з'яўляецца ўсёедным — не абавязваюць посныя дні.

**С.Н.**

# РАДЗІМА —РОДЗІНА

**Частка XIII**

Прыводжу далейшыя часткі выказванняў жыхара вёскі Багнюкі Сцяпана Багнюка:

„Ты знаеш, Аляксандэр, мы беларусы, то пакуль што слабы народ. Ты вазьмі хоць бы „Ніву" як адзін на другога нападае, як аплёўвае. Некаторым дуракам здаецца, што як яны нападуць на якогась беларуса, то людзі будуць іх шанаваці. А гэто ж бывае зусім па-другому. Ты ж толькі падумай, ні нападают на нас палякі, немцы, амерыканцы, але нападем самі на сваіх. Значыцца, мы дурныя людзі. Ты паглядзі на жыдоў, нам ад іх трэбо вучыцца. Гэто разумны людзі. У іх то ест такі парадок, калі скажэм, адзін жыд пралезе на добру пасаду, то ён паціху за сабою пацягне і пяць, і дзесяць, і дваццаць жыдоў. От так яны паступают усюды. А ты вазьмі нашых беларусаў. Калі адзін пралезе на добру пасаду, то ён ні толькі не пацягне за сабою другіх беларусаў, але наадварот, калі ў тым учрэждзенні ест другіе беларусы, ён іх памаленьку выгрызе, або даст ім горшу чым мелі работу. А чаму ён так зробіт? А таму так зробіт, каб даказаці палякам, што ён вельмі аддань палякам а не беларусам, і што ён рэалізуе польску палітыку. От бачыш, якія мы дуракі, а жыды былі, ест і будут разумны.

От таму, калі я з радзіва данаўся, што аб'яўлена незалежна Беларусь, то напачатку вельмі ўцешыўся, але калі ўсё гэто дзело добрэ перадумаў, то пачаў думаці па-другому. Я баюся, што самі беларусы гэту незалежнасць згноят. Знойдзецца якісь балда, што ўсё гэто дзело змарнуе. Ты знаеш, Аляксандэр, незалежнасць то веліке дзело, але бачыш, незалежнасць гэто свабода, а свабода то яна добра толькі для разумных, а для дуракоў свабода гэта вялікая біда. Дурак заўшэ выкарыстае свабоду, каб зрабіць зло для другіх людзей.

Я знаю, што ты часто бываеш у Мінску, Я цябе нават чуў пару разоў, як ты гаварыў у мінскім радзіві. То калі б табе давялося бачыцца з прэм'ерам Беларусі, ці з тым цэлым начальніком з Вярхоўнага Савета, то ты ім абавязково скажы, каб яны ўзялі да беларускаго жонду пару разумных жыдоў. Много іх браці ні трэбо, бо калі будзе много, то яны будут весці паліціку ні беларуску, але жыдоўску. Але калі ўзяці пару жыдоў, то яны будут весці беларуску паліціку. А чаму так трэбо паступіці? То таму, што жыды мают апанаваны цэлы свет. Фабрыкі, гандаль, банкі — гэто ўсё ў іх руках. І яны або могут моцно пашкодзіці Беларусі, або ёй моцно памагчы. А памогут толькі тады, калі будут у беларускім правіцельстві. Ну, калі б мяне хто спытаў, якімі міністрамі ў Беларусі павінны быці жыды, то я сказаў бы, што павінно быці так: ад гандлю міністр — жыд, ад банкоў міністр — жыд, ад медыцыны — міністр жыд, ну а іншы міністэрства то можно даваці ў рукі нашым беларусам, хай сабе чвэрат што хочут. І так много не пашкодзят. Калі ў гасударстві ў парадку будзе гандэль, медыцына, банкі, то і рэшта будзе яксе трымацца. Ну я так думаю аб гэтой справі, а ты думай як сабе хочэш".

**Алесь Барскі**





CHODASIEWICZ Igor: Potrafimy się porozumieć. Z konsulem Republiki Białoruś w Białymstoku... rozm. Jerzy Nachiło. *Kurier Poranny* 10.05.1995 r., nr 104 (1407), s. 3, foto.

JANOWICZ Sokrat: Kolonia czy przyczółek komunizmu? "Współczuję Łukaszence...". Z pisarzem białoruskim... o sytuacji na Białorusi po referendum 14 maja i przed II turą wyborów do parlamentu rozm. Krzysztof Paliński i Kazimierz Rosiński. *Kurier Poranny* 26-28.05.1995 r., nr 118 (1421), s. 1, 5, il.

KEMPFI Andrzej: Ty, co gród zamkowy nowogródzki ochraniasz z jego wiernym ludem. W kręgu "stołecznego Nowogródka" i nowogródzkiej mickie-wiczowskiej Matki Bożej zamkowej. *Twórczość* R. 51: 1995, nr 4 (593), s. 73-85.

KITOWSKA-ŁYSIAK Małgorzata: Tarasewicz. Plastyka. Jest czy nie jest outsiderem? I w jakim sensie czy stopniu? I — czy to istotne? *Tygodnik Powszechny* 30.04.1995 r., nr 18, s. 12.

(kr): Co z Białorusią? Bohdan Skaradziński w białostockim Muzeum Historycznym. *Kurier Poranny* 15.05.1995 r., nr 108 (1411), s. 6.

(kr): Białorusini nie chcą Białorusi. *Kurier Poranny* 19-21.05.1995 r., nr 112 (1415), s. 10.

KRUSZEWSKI Konrad: Białoruś pomaszerowała na Wschód. *Gazeta Współczesna* 19-21.05.1995 r., nr 96 (13248), s. 10, il.

Matus Irena: Wieś Strzelce-Dawidowicze w tradycji historycznej. Wyd. Białoruskie Towarzystwo Historyczne, Białystok 1994, ss. 242; Rec. WYSOCKA Dorota: Pomnik wsi Dawidowicze. *Przegląd Prawosławny* 1995, nr 5 (119), s. 40; Polem. PAWLUCZUK Jerzy: Uwagi dawidowiczanina do książki Ireny MATUS. *Czasopis* 1995, nr 5 (52), s. 25-27, il.

(olp): Dobry artysta na dobrym miejscu. Tarasewicz maluje na ścianach "Arsenału". *Kurier Poranny* 15.05.1995 r., nr 108 (1411), s. 5, il.

(PAP): Białoruś z Rusią. Referendum po myśli Łukaszenki. *Kurier Poranny* 16.05.1995 r., nr 109 (1412), s. 1.

PIONTKOWSKI Mirosław: "Homo Sovieticus" triumfuje. Poczwórne poparcie dla prezydenta w referendum na Białorusi. *Gazeta Współczesna* 16.05.1995 r., nr 93 (13245), s. 1, 2.

TARASEWICZ Leon: Cały czas chodzi mi o malarstwo. Z artystą malarzem... rozm. Andrzej Kisielewski. *Kurier Poranny* 12-14.05.1995 r., nr 106 (1409), s. 8, il.

WIŚNIEWSKI Tomasz: Kawałek Polski na Białorusi. Gdyby nie polscy księża, wszystko by tu leżało i do dziś w kościołach stałyby traktory. *Kurier Poranny* 26-28.05.1995 r., nr 118 (1421), s. 4-5, il. mapa.


**P. C.**



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# НЕ ТАКІ КЛЕШЧ СТРАШНЫ...

Апошнімі гадамі, калі толькі пачынаецца вясна, у польскай прэсе паяўляюцца артыкулы, у якіх поўна перасцярог перад кляшчамі, пераносчыкамі і носьбітамі ўзбуджальнікаў каля 20 інфекцыйных і паразітарных хвароб свойскіх і дзікіх жывёл, а таксама чалавека. Артыкулы тыя ў значнай ужо ступені паўплывалі на тое, што людзі пачынаюць пазбягаць знаходжання ў лесе, на лугах, у парках. Зразумела, каб не падвяргацца небяспецы адмоўнага выніку непасрэдных зносін з гэтымі найбольшымі і найбольш арганізаванымі паразітаформнымі.

Ці ў сапраўднасці трэба баяцца кляшчоў? Асабіста думаю, што не трэба, але і нельга адносіцца да іх абыякава. Выбіраючыся, напрыклад, у лес, трэба адпаведна забяспечыцца і быць асцярожным. У сваю чаргу — не кожны непасрэдны кантакт з кляшчом зараз жа мусіць прынесці прыкрыя наступствы, значыць захворванні. Эпідэміёлагі сцвярджаюць, што на тэрыторыях асаблівай рызыкі толькі кожны пяцідзесяты або нават соты клешч з'яўляецца носьбітам узбуджальнікаў хвароб. Зрэшты, каб сутыкнуцца з кляшчом, не трэба выходзіць з дома. Клешч сам можа да нас прыйсці, ці то ў букеце палявых або лугавых кветак прынесеных некім, ці на скуры нашага коціка або сабачкі.

У свеце жыве 810 відаў кляшчоў, з таго ліку ў Еўропе — 60, а ў Польшчы — 20. Найбольш пашыранымі і найважнейшымі ў эпідэміялагічным сэнсе з'яўляюцца на нашай тэрыторыі клешч авечы і клешч лясны, якія жывуць у шыракалістых, хваёва-шыракалістых, хваёвых, чорнаальховых лясах, хмызняках поймавых лугоў, і клешч лугавы, што селіцца на ўзлесках, у сухадольных лугах, на берагах рэк і ручаёў. Наогул кляшчы звязваюцца з тэрыторыямі вільготнымі. У большай колькасці выступаюць яны ў перыяды інтэнсіўных ападкаў, а ў час засухі іх меншае. Кляшчы не любяць таксама тэрыторыяў празмерна вільготных і перасушаных.

Кляшчы ў паасобных фазах развіцця жывуць на рознай вышыні ад зямлі — ад 30 см да 1,5 м, рэдка вышэй. Канцэнтруюцца пераважна паблізу дарог, сцежак, а таксама ўздоўж шляхоў вандровак карміцельшчыка. Падпільноўваюць яго ў травах, нізкіх кустах, звісаючы на сцяблах траў або на сподзе лісткоў і адчуваючы яго пры дапамозе г.зв. органа Галера, які знаходзіцца на першай пары ног (усіх ног у кляшча чатыры пары). Карміцельшчыкам тым можа быць нейкая жывёліна або чалавек. Кляшчы зачапляюцца нагамі і пераходзяць на яго, затым вандруюць, каб знайсці адпаведнае месца для кармлення, дзе ўбіваюць свае ротавыя органы глыбока ў скуру. За ўвесь працэс кармлення клешч можа нацягнуць і пераварыць каля 4 000 мг крыві (пры даўжыні каля 3—5 мм ён, напіўшыся крыві, можа дасягнуць 10—25 мм). Пасля заканчэння кармлення клешч выцягвае свае ротавыя органы з цела карміцельшчыка.

Найбольш вядомымі хваробамі, якія пераносяць кляшчы, з'яўляюцца клешчавы энцэфаліт і барэльёз з Лімэ.

Да заражэння вірусам клешчавога энцэфаліту найчасцей даходзіць у выніку ўкусу заражаным кляшчом (натуральным гаспадаром віруса з'яўляюцца пазваночныя, галоўным чынам дзікія грызуны, малыя лясныя млекакормячыя, птушкі), але хвароба можа таксама пашырацца харчовым трактам, г.зн. праз піццё непараванага малака або спажывання сыроў з малака заражаных кароў, авечак і коз. Павышаная колькасць захворванняў выпадае на перыяд красавік—кастрычнік, з пікам у чэрвені і верасні — месяцамі найбольшай актыўнасці кляшчоў. Дагэтуль найбольш захворванняў на клешчавы энцэфаліт у Польшчы зафіксавана ў яе паўночна-ўсходніх ваяводствах.

Асноўнымі сімптомамі хваробы з'яўляюцца: гарачка, боль галавы, мышцаў, суставаў, апрача таго выступаюць сімптомы катару верхніх дыхальных шляхоў і страўнікава-кішачныя болі. Стварае гэта грыпападобны вобраз. Першая фаза хваробы заканчваецца кароткачасовым паляпшэннем. Другая фаза наступае нечакана, прыносячы больш сур'ёзныя сімптомы: гарачку да 40 градусаў, атупенне, спячку, перамену настрою, самагубныя думкі, дэпрэсію, боль і галавакружэнне, ваніты, паніжэнне крывянога ціску, кан'юнктывіт.

Зараз у Польшчы супраць клешчавога энцэфаліту ўжываюцца вакцыны аўстрыйскай і нямецкай вытворчасці. Яны даюць вельмі добры рэзультат, загартоўваючы прышчэпленага на тры гады. Пасля гэтага перыяду прышчэпліванне трэба паўтараць. На жаль, яно надта расцягнутае ў часе, а выконваецца ў трох тэрмінах: другі раз пасля 4 тыдняў, трэці раз пасля 9—12 месяцаў. У дадатак вакцыны гэтыя даволі дарагія і не кожнаму яны па кішэні.

Барэльёз з Лімэ быў апісаны няпоўных 20 гадоў таму. Хвароба гэтая характарызуецца шматлікімі дэрматалагічнымі, рэўматычнымі, неўралагічнымі і кардыялагічнымі сімптомамі. У 50—80% хворых выступаюць наскурныя змены і г.зв. вандруючы румянец. Хваробу выклікаюць бактэрыі з роду Borrelia (адтуль і барэльёз). Выяўляецца яна ад некалькіх дзён да аднаго, а часам і больш месяцаў. У некаторых асоб сімптомы барэльёзу з Лімэ могуць выступіць нават некалькі гадоў пасля заражэння.

Хаця вядуцца інтэнсіўныя даследаванні, пакуль што вакцыну супраць гэтай хваробы яшчэ не вынайшлі. Асобы, у якіх выяўлены барэльёз з Лімэ, лечацца антыбіётыкамі (Doksycyklina, Ceftriakson).

На жаль, абедзьве згаданыя хваробы ў найгоршым выпадку могуць закончыцца для чалавека нават смерцю. На шчасце — гэта рэдкія выпадкі!

Магчыма, што чытач пасля прачытання вышэйнапісаных радкоў ужо не захоча чытаць далей, заракаючыя, што з гэтай пары не пойдзе ані ў лес, ані на раку, што плыве пасярод лугоў. Што ж, калі так баіцца, наогул няхай і не выходзіць з дому на вуліцу; на ёй жа можна загінуць, напрыклад, ад аўтамабіля. Выпадкі смерці ад аўтамабіляў здараюцца ж намнога часцей! Але, жарты ўбок! Чытач павінен усведаміць сабе, што парыванне кантакту з прыродай, якія яна б не скрывала пагрозы, у рэшце рэшт яму самому выйдзе на зло. Чалавек жа не можа жыць без прыроды, без адпачынку на ёй ўлонні. Прабыванне ў тэлевізійна-камп'ютэрным гета намнога горшае для здароўя, чым эвентуальныя зносіны з кляшчамі.

Як жа забяспечыцца перад гэтымі маленькімі, але ўсё ж „страшнымі" паразітаформнымі? Як да мінімуму абмежаваць рызыку прыкрых наступстваў непасрэднага кантакту з імі?

Выбіраючыся ў „клешчавыя месцы", перш за ўсё трэба адпаведна апрануцца. Штаны павінны гладка прылягаць да фігуры. Шкарпэткі добра выцягваць наверх. Кашуля толькі з доўгімі рукавамі. На галаву абавязкова накладаем шапку. Боты павінны мець высокія халявы і дакладна прылягаць да ног.

У аптэках і магазінах санітарыі і гігіены штораз часцей і ў большай колькасці можна ўжо купіць гатовыя прэпараты, якія пужаюць усіх нашых крывасмокаў. Іх таксама можна прымяніць. Добрыя вынікі атрымоўваецца прымаючы большую колькасць вітаміну $B_2$, якога прыкры пах абароніць нас ад кляшчоў і камароў.

Пасля вяртання дадому трэба абавязкова агледзець паверхню свайго цела, асабліва ў тых месцах, у якія цяжка заглянуць без люстра. У выпадку сцвярджэння кляшча, неадкладна яго вымасм, каб перашкодзіць яму ўвесці большую колькасць бацылаў у нашу кроў. Спосабаў вызвалення ад кляшча ёсць некалькі. Адны прыпякаюць яго брушка папяросай або запалкай, другія сцвярджаюць, што добра капнуць на кляшча каплю шкіпінару, бензіну, газы або змазаць яго эфірным маслам. Апошнім часам прыкмечана, што кляшчы гінуць на працягу 5—8 хвілін пасля сутыкнення з фітанцыдамі (эфірныя рэчывы, якія выдзяляюць розныя віды раслін) соку часнаку.

Шматлікія пазбаўляюцца клешча, затыкаючы яму дыхальную адтуліну змазваючы яго нейкім тлушчам (вазелін, алей, масла, крэм) або лакам для ногляў ці валасоў. У такім выпадку клешч сам адрываецца ад цела. Лекары аднак перасцерагаюць што клешч выдзяляе вялікую колькасць сліны з мікробамі і беспячней выняць яго, не пашкодзіўшы, пінцэтам. Месца ўкусу трэба дэзінфіцыраваць, а ўжо абавязкова, калі нешта з кляшча засталося ў целе (такія выпадкі здараюцца пры ўваходзе кляшча глыбока ў скуру). Найлепш тады адразу пайсці да хірурга, бо справа можа закончыцца запальным станам. Не рэкамендуецца выцягваць кляшча пальцамі — пагражае гэта тым, што атрутныя рэчывы разнясем па скуры.

У падтрымку для баязлівага чытача скажу, што аўтар гэтых радкоў шмат разоў быў пакусаны кляшчамі і пакуль што ўсё жыве. Нават зараз у мяне на плячах румянец, пасля сёлетняга ўкусу кляшча, якога, мабыць, прынёс дадому адзін з маіх катоў. Зрэшты, як можна пазбегнуць нагоды сустрэць кляшча кожнаму, хто жыве ў лесе?

**Пётр Байко**

# У маленькім доміку

Калі чалавек стары, успамінае былое, маленства, маладосць. Не раз хочацца вярнуцца хоць на дзень у той час. Але, вядома, жыццё дадзена нам адно, і ніколі назад не вернешся.

Я ўсё жыццё ўспамінаю маленькую хатку, што стаяла на суседнім панадворку. Наш дом таксама быў іншы, меншы, чым той, у якім жывем цяпер. Падзелены ён быў на дзве часткі. Адна была пустая (палова дома бабулінага брата, які выехаў з Семяноўкі).

Наш дом і той домік былі пакрыты саломай. У нас была кухня і „хата", а там — адзін пакой, без падзелу на кухню. Спачатку жыла ў тым доме маці з двумя дочкамі, а калі выправіла іх замуж, асталася адна. Калі старая Юрэвічка памерла, у доме праз нейкі час пасялілася малодшая дачка з мужам і сынам. Оля хварэла вадзяным ракам, мела жывот як у цяжарнай жанчыны. Муж Стэфан меў рэнту, а Андрэй, якога называлі Арцем, хадзіў у пачатковую школу. Мелі яны тэлевізар, тады яшчэ вялікую рэдкасць у вёсцы. Памятаю, як у нядзелю пасля багаслужбы прыходзілі жанчыны наведаць Олю. Глядзелі тэлевізар, рыхтавалі цеста на бабку і пяклі яе ў электрычнай печцы, рэчы таксама рэдка трапляючайся ў вёсцы. Калі бабка спяклася, Оля ўсіх частавала. Якая смачная была тая бабка з кавай „Інкай"!

Я вельмі любіла хадзіць з бабуляй і мамай да суседзяў, бо магла там паслухаць радыё, паглядзець тэлевізар. Найбольш памятаю казкі на „дабранач" — „Яцка і Агатку".

У доўгія зімовыя вечары прыходзілі да Олі жанчыны. Колькі ж яны былiц і небыліц расказалі!

Заўсёды ў ліпені прыязджала Оліна сястра, Генька з сям'ёй. Яе муж Юрка быў капітанам, дачка Ванда канчала пачатковую школу, а Ліля была на пару гадоў малодшая. Як нам тады было весела! Дзяўчаткі прывозілі радыёпрыёмнік з грамафонам, слухалі сучасныя польскія гурты. Я вельмі любіла спяваць песні, якія чула ад бабулі. Суседзі прасілі мяне, каб спявала, частавалі за гэта цукеркамі. Аднойчы Геньчын муж папрасіў мяне, каб я заспявала. „Я не буду співаці, бо зубы балят!" — сказала я. Усе чамусьці з гэтага смяяліся.

Прыйшло свята Яна — 7 ліпеня. У дом Олі і Стэфана найшло шмат моладзі. Я пабегла паглядзець, што там творыцца. Ванда малявала вочы зялёным колерам, губы чырвоным, вейкі і бровы чорным, ружовіла твар. Я пабегла да мамы пытацца, што гэта такое з сабою Ванда робіць.

— Сёння будуць танцы ў Нараўцы. Калі вырасцеш, і ты будзеш малявацьсабе твар, — растлумачыла мне мама, а я падумала, што не варта чакаць, — магу ж так памаляваць сябе і сёння і пайсці з Вандай на танцы.

Пайшла я да шафы, дзе мама трымала памаду для вуснаў, і пачала маляваць сабе твар, не гледзячы ў люстэрка. Адным колерам не будзе горш, чым трыма, праўда?

Мама аж рукі заламала, убачыўшы маю творчасць, адмыла мяне і шафу зачыніла ключом. Так я і не выбралася з Вандай на танцы!

Арцё, Олін сын, мучыў катоў. Як толькі прыйдзе да нас, схопіць ката, пачынае яго душыць, аж небарак вішчыць. Хлопец смяяўся на нашы пагрозы і рабіў сваё. Тады я на Арця кідалася з кулакамі, але для яго гэта было нішто. Рашыла яму адпомсціць — ударыць у галаву чымсьці цвёрдым.

Мама купіла мне белыя туфелькі. Насіла я іх штодзень. Пайшлі мы з бабуляй да суседкі. Я выйшла на панадворак. Арцё схапіў нашага ката. Я кінулася яму на ратунак. Арцё пабег на луг. Мо пяць крокаў ад дарогі на лузе была выкапана неабмураваная студня, зверху накрытая дошкамі. З тае студні людзі бралі ваду здатную да піцця. Арцё ўскочыў на дошкі, адна абсунулася. Я сцягнула з нагі туфель і кінула ў галаву хлопца. Арцё заенчыў „Ой, баліць!", той боцік адбіўся ад яго галавы і ўпаў у студню. У той момант з дому выйшлі бабуля і Стэфан.

— Ах ты, паскуда! — крыкнула бабуля. — Што ты яму зрабіла?!

— Ён надобры быў, каты мучыў.

— Дзе твой боцік? Пакажа табе мама!

Арцё хадзіў па лузе і трымаўся за галаву, а я смяялася і паўтарала: „Будзеш іх мучыць, будзеш?! Я табе за гэта яшчэ раз дам!"

Стэфан вядром выбраў усю студню, каб дастаць мой боцік.

Ой, адлупцавала мяне тады мама! Паставіла на калені. а бабуля казала маме:

— Добрыя з іх людзі. Стэфан нават слова не сказаў, што яна Арця пакрыўдзіла. І столькі часу патраціў, каб туфель дастаць.

Стэфан тыдзень браў ваду з нашай студні, пакуль у тую не найшла новая вада. Арцё зноў пачаў нас наведваць, але катоў ужо не чапаў.

Оля памерла. Пасля паховін Стэфан забраў Арця і з'ехаў назаўсёды. Праз год пасяліліся ў іхнім доміку новыя людзі, але з імі не было так цікава, як з сям'ёй Олі і Стэфана.

**Аўрора**



© PDF: Kamunikat.org 2015
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

*Сцяпан Абух*

# З запісаў нацыяналіста

### 13. Тыць Кнышко

Тыць Кнышко — ці не самая цікавая асоба Зоны. Увагі заслугоўвае ўжо той факт, якім чынам Тыць трапіў у Зону. Папаў у яе цалкам выпадкова — праз тыднёвік „Гоні". Сябрук, які супольна з Тыцем займаў кватэру, завіваў у „Гоні" бутэрброды. І вось аднаго разу Тыць схапіў, нарыхтаваны сябрам, пакамечаны лісток „Гоняў" і пагнаўся колькі сіл у... туалет. Там, дапяўшыся палёгкі, меў ужо *прымяніць* той лісток, але яго зрок выпадкова запыніўся на непрыкметнай аб'яве:

**ВЯРТАЙСЯ І ТЫ!**
ЗГУРТАВАННЕ ВЫХАДЦАЎ ЗОНЫ ПЕРАЯЗДЖАЕ Ў ЗОНУ.

І яшчэ... і яшчэ... а каб яго халера... мусіў быць адрас ды тэлефон, але якраз у гэтым месцы не хапала кавалка паперыны. Тыць, не падцягнуўшы акуратна штаноў, пагнаўся за сябруком. Зона, зона, зона... Нешта бабуля пра яе расказвала. Тыцю ў адзін момант узяла за сэрца неадольная туга. Тыць не разумеў гэтага, але ведаў, што яму трэба адшукаць дарогу ў Зону. Дапаўшы да сябрука, схапіў кіпцюрамі за шыю і стаў душыць — аддай мне кантакт у Зону..!

— Добра, добра, але перш схавай сваю флейту...

Тыць Кнышко быў народжаным лідэрам і хутка знайшоў сваё месца сярод прэзідэнцкай эліты Зоны. Зараз пасля Вавы Мацько абняў кіраўніцтва Згуртаваннем выхадцаў Зоны. Нарабіўшы там фінансавых афёр, адышоў на час нейкі з зонаўскай палітыкі. Бяздзейна аднак гэтага часу не правёў. Спрабаваў пару разоў ажаніцца. І хоць Тыць Кнышко карыстаўся вялікай пашанай сярод сваіх сяброў ды яшчэ большай сярод сябровак — сваты ішлі даволі няскладна. Мушу тут прызнацца, што я сам разы два вадзіў яго да дзевак.

Вяртанне Тыця ў палітыку было ў той жа меры велічным, што сваты годнымі жалю — Кнышко стаў дзяржаўным сакратаром Нацыянальнай дэмакратыі Зоны. Стаў ён ад гэтага моманту асобай міжнароднай, знаёмства з ім падтрымлівалі любагорскія палітыкі і замбарскія дыпламаты. Да ўсяго гэтага вяшчанне „Любоў", дзе Тыць працаваў, накіравала яго ў Замбара ў характары карэспандэнта.

У Замбара Тыць хутка навёў неабходныя знаёмствы. Праўда, крышку інтрыгаваў вакол яго любагорскі консул Марко Зялько, закідаючы Тыцю неаб'ектыўнасць, спрыянне для апазіцыйнага „Руху за Адраджэнне Замбаран", але на кар'еру Тыця гэта не паўплывала.

Тыць знайшоў таксама ў Замбара сваю вялікую любоў — працавала яна ў галіне эстраднага шоў-бізнесу, але не была цалкам смуглявай. Дарэчы, любоўныя дасягненні Тыця ў замбарскай сталіцы сталі вядомымі ў Зоне і таму сябрукі Тыця перайначылі нават адзін фольк-стандарт Зоны, у якім цяпер недвухсэнсава згадваецца яго імя:

*Тыць-тыць рукою,*
*Нэма еі пудо мною...*

У Замбара Тыць Кнышко рашыў, што напіша яшчэ ў сваім жыцці раман. Часта вяртаўся да яго ў роздумах, складаючы сюжэт. А значыць: яна была з Замбара, а ён — з Зоны. Іхнія сцежкі і лёсы беспярапынна перасякаюцца. Дзеянне штораз перакідаецца з Зоны ў сталічнае Замбара і наадварот. Ён працуе карэспандэнтам любагорскага вяшчання „Любоў" і адчувае сорам за замбарцаў, якія, як народ, адракаюцца сваёй тоеснасці. А яна, у дадатак, прабуе яшчэ знайсці свае любагорскія карані. І нарэшце, Кнышко адчуў, што набліжаецца да сутнасці, хай яна трапіць у свой любы Любагорск, але ў суправаджэнні прадпрыемца-распусніка. У час распуснай гульні з ім хай яна зразумее, што гэта ўсё-такі не той Любагорск, пра які расказвала ёй любагорская маці-патрыётка...

Каторы ўжо раз салодкі роздум Тыця перабіў раптоўны званок тэлефона. Кнышко пазнаў голас каханай, але любасці ў ім гэтым разам не было.

— Путч, пераварот! Уключай тэлебачанне!

Спікер у вайсковай форме, на неахайным трэйшан інгліш, паведаміў, што ад гэтага часу ўся ўлада ў Замбара належыць нарэшце замбарскаму народу, а кіраўніком дзяржавы з'яўляецца старшы лейтэнант Люкас Маршал Роўлінс. Затым камера паказала Пляц Незалежнасці, перайменаваны ўжо на Пляц Каралевы Альжбеты, а на ім старшага лейтэнанта Роўлінса, які пугаём публічна абіваў дзеячаў „Руху за Адраджэнне Замбаран".

— Ад гэтай пары, — прамовіў старшы лейтэнант Роўлінс, — мы, замбарскі народ, абвяшчаемся часткай Брытанскай садружнасці народаў. *Год сэйв дэкуін!* (*Trasian:* Божа, заступіся за каралеву!)

---

**ПАРНАСІК** — чытальніцкая літсупольна на негарантаваных паях

### Паэзія Івана Чыквіна

Івана Чыквіна паэзія —
Як кветка свежая,
Заўсёды квітнее,
Бледнуць не ўмее.
Вершы яго зразумелыя,
Дасканалыя, спелыя,
Селяніну можна чытаць —
Сябе ў іх распазнаваць.
Яны і работніку не чужыя,
Верным беларусам дарагія,
І інтэлігент знойдзе месца —
У творах Чыквіна не цесна.
А гэта рэдкі выпадак
Такі ўсебаковы парадак.
Іван — сялянскі сын, зямляк,
Гуманіст, паэт і мастак.
Паэзія яго нас вучыць,
Паслядоўная, не мучыць;
Скарбніца для народа,
І не хвальба, і не мода.
І рыфмы, і рымы
Звучаць як гімны,
Чуваць подых прыроды
І патрыятызм народа.
Яго „Святая студня"
Верная святам і ў будні
Міравога ўжо стандарта
Ведаць нам усім варта.
Ён і пісьменнік, і перакладчык,
Літаратурны шэф і дарадчык,
Геній, майстар слова
Усёй славянскай мовы.
Варт вялікага звання,
Нат нобелеўскага прызнання.
Для Івана Чыквіна, паэта
Дасягальная гэта мэта.
Паэзія яго — сімфонія,
Жывая гармонія,
Вучыць нас і кліча
Мець цвёрдае абліччча.

**Мікалай Панфілюк**

---

## ЯКОЕ ШЧАСЦЕ...

Дарэк быў добрым вучнем. Бацькі ім ганарыліся. І хлопец цешыўся, што ў яго доме нармальна — бацька не п'е, дбае аб сям'ю, і маці клапатлівая, ахайная, акуратная. Дарэк ганарыўся сваімі бацькамі — бачыў нямала разбітых сем'яў. Даркава маці працавала сакратаркай, бацька рамантаваў машыны. Сям'і хапала грошай на свае патрэбы. Усе суседзі давалі іх за прыклад сямейнага шчасця.

Бацькі доўга скрывалі перад усімі, што штосьці ў іх не ладзіцца. Ужо чатыры гады Ян сустракаўся з прыгожай маладой Мажэнай. Маці была закаханая ў свайго дырэктара. Доўга скрывалі ўсё дзеля дабра сына, але ўрэшце рашылі, што так далей быць не можа.

— Наш Дарэк ужо вялікі, павінен усё зразумець, — рашылі.

Аднойчы хлопец, вяртаючыся са школы, убачыў бацьку, які выходзіў з дома з вялікімі чамаданамі.

— Куды ты сёння едзеш, тата? — запытаўся.

— Дарэк, я еду да сваёй будучай жонкі. Чаму так усё атрымалася, расказжа табе твая маці. Ты застанешся з ёю, так мы вырашылі. Пакідаю вам дом і аўтамашыну.

Хлопец аслупянеў. Стаяў і адчуваў, як дранцвеюць яго рукі і ногі. Не памятае, як апынуўся ў бальніцы.

Адняло яму левы бок. Доктар, што лячыў Дарка, сказаў маці, што гэта ад раптоўнага шоку.

Бацькі часта прыходзілі наведаць хворага сына. Ведалі, што стала прычынай яго нямогласці. Рашылі зноў быць разам для яго дабра. Сказалі яму пра гэта. Хлопец павесялеў, папраівіўся.

Цяпер яны зноў разам. Не вядуць падвойнага жыцця. Стараюцца як найбольш прабываць са сваім сынам.

Зноў суседзі бачаць згодную, шчаслівую сям'ю. Толькі Дарэк больш не распавядае сябрам, што яму пашанцавала нарадзіцца ў такой цудоўнай сям'і...

**Аўрора**

---

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову Музея. Ахвяраванні на пабудову Музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP, Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4 427. Гражына і Славамір Бароўскія (Беласток) | — 40 зл. |
| 4 428. Уладзімір Іванюк (Вітава) | — 20 зл. |
| 4 429. Ян Зенюк (Беласток) | — 10 зл. |
| 4 430. Віктар Хшаноўскі (Беласток) | — 10 зл. |
| 4 431. Сяргей Лукашук (Бельск-Падляшскі) | — 10 зл. |
| 4 432. Аляксандр Іванюк (Гайнаўка) | — 10 зл. |
| 4 433. Валянціна Грыка (Старое Ляўкова) | — 12 зл. |
| 4 434. Галіна і Аляксей Карпюкі (Бельск-Падляшскі) | — 20 зл. |
| 4 435. Славамір Кулік (Гайнаўка) | — 10 зл. |
| 4 436. Міхал Панфілюк (Нараўка) | — 25 зл. |
| 4 437. Міхал Голуб (Гайнаўка) | — 10 зл. |
| 4 438. Тамара Саланевіч (Варшава) | — 50 зл. |
| 4 439. Канстанцін Лукашэвіч (Беласток) | — 10 зл. |
| 4 440. Управа Гміны ў Дубічах-Царкоўных | — 500 зл. |

**Дзякуем.**

**Наш адрас:** Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

---

# ВІРАВАНКА

1. ежа з тварагу, 2. новая вестка, 3. вадаспад у Фінляндыі, 4. лесапільны завод, 5. паведамленне, 6. столік на багаслужэбныя кнігі, 7. кабан, 8. агародная расліна, 9. аўтар „Паломніцтва Чайльд Гарольда", 10. крайняя безнадзейнасць, упадак духа, 11. знак прывітання, павагі.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 17 н-ра:**

**Гарызантальна:** якут, паніч, Украіна, якар, кацап, асвета, шатроўка, камар, зборышча, мадрыгал, плашч, вакансія, Расіні, спрут, лязо, Сухумі, Судан, міна.

**Вертыкальна:** Сахара, Віташа, кукуруза, Тураў, халва, пліта, партызан, скорапіс, Комі, мода, юшка, харч, бландзін, ляпсус, шчупак, матуз, вірус, кілім.

Кніжныя ўзнагароды высылаем Аляксандру Дабчынскаму і Лукашу Пацэвічу з Беластока.

---

**Ніва**

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Мірaслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранoвіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1995 r. upływa 20 sierpnia 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

## Думкі ўслых

*

Чаму даходы так сканструяваны, што заўсёды трэба ашчаджаць?

*

Не досыць, што за ім было апошняе слова, ды яшчэ быў гэта цэлы сказ.

*

Дзеўка на Купаллі згубіла галаву. Потым выйшла, што не толькі яе.

*

Дзе двух п'юць, там і трэці скарыстае.

*

Ад многіх спраў выкруціўся хваробай. Смерць, аднак, не зважала на бальнічны лісток.

*

Лысіна не абазначае, што жыццё яе ўладальніка гладзіла па галаве.

**Адам Сяменчык**

* * *

Адчуўшы ад застолля стому,
Свайго жыцця не загублю:
Я кожны раз там піць не стану —
Часамі толькі прыгублю.
Жанчын цудоўных столькі
усюды,
Ды я сям'ю сваю люблю:
Я цалаваць другіх не буду —
Парою толькі прыгублю.

**Станіслаў Валодзька**







Мал. А. Гармазы

## Вось дык улоў!

— І чаго ты, хлопчык, з вудамі ў аўтобус прэшся? — незадаволена зірнула на мяне незнаёмая цётка. — Яшчэ зловіш каго!

— Абавязкова, — адказваю, — акуня ці плотку...

Уладкаваўся — і еду сабе, як раптам чую, нехта вуду з рук цягне. Учапіўся, трымаю. Што за жартачкі, думаю?

— Ану, адпусці! — раптам крычыць нехта голасам той самай цёткі.

Бацюхны! Ды гэта ж мой кручок упіўся ў ейную спадніцу.

— Цётачка, — прашу, — толькі не варушыцеся! Я яго зараз...

Падскочыў да яе і пачаў кручок са спадніцы выслабаняць. Пасажыры — у рогат.

— Вось дык улоў! — кажа дзядзька. — Такую рыбіну без падсачка не ўзяць!

— Адчэпіш ты яго, нарэшце, ці не? — злуецца цётка, пакуль я валэндаюся з гэтым кручком. — Я зараз выходжу.

Разам з аўтобуса пад агульны смех і выйшлі: цётка на кручку — наперадзе, а я — за ёй. Парвала яна са злосці лёску і пайшла дадому з маім кручком. Добра яшчэ, што за вушы не нацягала. Далей на рыбалку я пешабаваў пешшу.

Наконт кручка я не вельмі хваляваўся: заўжды пры сабе маю запасны!

**Вячаслаў Гілевіч**

### АБАЧЛІВЫ

— Здароў, браток! Ну, як
жывеш?
— Ды так сабе. Нічога.
— Даходзяць чуткі да мяне ж —
Развёўся ты, нябога.

— Ды тая ж жоначка-краса
Характар мела злосны.
Так дапякала, як аса,
Што жыць было мне млосна.

— Я чуў, ты новую займеў.
А з гэтай як жывецца?
— Ох, уляцеў, дык уляцеў, —
Не знаю, дзе падзецца.

— Гаруеш, брат, не ты адзін, —
Пайшла такая мода.
Вазьмі ды трэцюю знайдзі,
Мо з трэцяй будзе згода?

— О не! Не будзе мне лягчэй,
Ізноў мяняць, баюся.
Патрапіць горшая яшчэ, —
Дык я зусім загнуся.

**Алесь Ставер**

### ПОШУКІ

Размаўляюць мужчыны
Ля ўвахода ў кіно:
— Ідэальную жонку
Я шукаю даўно.
— І знайшоў?
— Адшукаў я,
Але, знаеш, здаўна
Ідэальнага мужа
Мець жадае яна...

**Мікола Алтухоў**




*На Брэст!* Мал. П. Шычко

## Смех у санаторыі

Гарбачоў і Рэйган у доказ сяброўства рашылі памяняцца сакратаркамі. Мінуў месяц і амерыканская сакратарка шле тэлеграму ў Вашынгтон.

— Тут вельмі дрэнна: ежа тлустая, крэслы цвёрдыя, няма камп'ютэраў, а на дадатак далі так доўгую спадніцу, што ўвесь час у яе заблытваюся.

У той самы час савецкая сакратарка тэлефануе на Крэмль:

— Тут вельмі дрэнна: цэлае бюро набітае электронікай, усюды мільгаюць каляровыя лямпачкі, а я не ведаю, што яны абазначаюць. Да таго ж адзелі мяне ў міні-спаднічку так кароткую, што відаць аўтамат і патроны.

* * *

На пустыні грамада арабаў уцякае перад неграм.

— Слухайце, а чаго ж мы ўцякаем? — пытаецца адзін.

— Не бачыш? Негр нас гоніць.

— Ну і што? Ён адзін, а нас сотня.

— А ці гэта вядома, каму дасць па мордзе.

* * *

На партсходзе разглядаецца справа разводу Кавальскага з жонкай:

— Скажыце, Кавальскі, чаму хочаце разысціся і разбіць асноўную грамадскую ячэйку, — звяртаецца сакратар.

— Бо мая жонка не можа мне дагадзіць, — адказвае Кавальскі.

— Што вы гаворыце! — нервуецца сакратар. — Усім нам дагаджае, толькі вам не можа?!

* * *

Два шваграў задумалі купіць цёшчы завушніцы з нагоды яе юбілею. Каб замацаваць гэтае рашэнне пайшлі ў рэстаран. Выпілі літр гарэлкі і адзін з іх гаворыць:

— Знаеш што, на залатыя завушніцы не хопіць нам ужо грошай, давай купім цёшчы сярэбраныя.

Мінула яшчэ паўлітра. Цяпер адзываецца другі:

— На сярэбраныя завушніцы таксама ўжо не хопіць. Давай у гэтым годзе праколем ёй толькі вушы.

* * *

Да малыша, што гуляе ў пясочку, падыходзіць маці:

— Што жуеш, сыночку?

— Мяса.

— А хто табе даў?

— Ніхто, само прыпаўзло.

Даслаў
**Андрэй Гаўрылюк**




Паехала я ў санаторый. Думала, падлячуся, а заадно і на людзей пагляджу. А што ў мяне за жыццё! Адна, як палец, хаця ёсць муж і сын. Муж жыве ў іншым горадзе, быццам трымае там кватэру для сына, але сын выехаў у Грэцыю і ўжо сядзіць там тры гады, невядома, ці вернецца. А я адна і адна.

А ў санаторыі — усе старыя. Няма нават на кім вока зачапіць. Для каго я столькі вопраткі панабірала? Бабы смяюцца з мяне, кажуць: „Тая, што ўвесь час пераапранаецца"... А дзе мне тут вопратку сваю дэманстраваць?! Мо на працы — пры абслугоўванні камп'ютэра, або дома — дзе зарабляю, рамантуючы панчохі...

Пайшла я адна ў кавярню. Села за столікам, п'ю каву. Нейкі чалавек устаў з-за століка, прайшоў каля мяне ў туалет. Вяртаючыся, усміхнуўся мне, спытаў, ці можа прысесці. Вядома! Чакаў тут сябра, а ён не прыйшоў. Пачаў жаліцца мне на сваё жыццё. Быў, як і я, самотны. Жонка зрабіла ўсё, каб адабраць у яго дачку, кватэру. Мусіў выехаць з Варшавы і пасяліцца ў гэтым горадзе, хаця быў там вядомым кінаапаратарам.

„Дык ён мясцовы, — падумалася мне. — Мо і добра: было б да каго прыязджаць летам. Пяцьдзесят пяць гадоў, якраз для мяне, а да таго ж і даволі прывабны". Я слухала пра яго няшчасці з нейкім задавальненнем, што вось менавіта мне, незнаёмай жанчыне, расказвае ён пра свае жыццёвыя таямніцы і нічога не баіцца. А яшчэ ж і хворы. Увесь час мае клопаты з горлам. Тут адчувае сябе значна лепш.

Правёў мяне аж да дзвярэй нашага санаторыя. Пацалаваў у руку. На вечар дамовіліся на шпацыр над морам. Божа, што гэта быў за шпацыр! Слёзы даслоўна ліліся з яго вачэй. Пераконваў мяне, што нарэшце ён шчаслівы, бо знайшоў чалавека, які хоча выслухаць, а мо і зразумець яго, пацешыць у няшчасці.

На крыллях вярнулася я ў свой пакой. Пра ўсё расказала жанчыне, з якою жыла. Яна глянула на мяне са здзіўленнем: „Так адразу ва ўсім адкрыўся?" А я была на сёмым небе. На заўтра ж дамовіліся на танцы.

На наступны дзень кажу сваёй суседцы: „Між чацвёртай і шостай мяне не будзе! Ідзем танцаваць!" Божа, як сорамна мне было вяртацца каля пятай дахаты. Уяві сабе, Сэрцайка, што ён не прыйшоў. А я там не такая, што буду чакаць да шостай. Вярнулася.

Перадумала ўсё. Не мог такі чалаек падвесці мяне. Шчыры, адкрыты. Раніцай уключылі радыё. Чую: памёр нейкі чалавек 55 гадоў. Пажарнікі выцягвалі яго праз вакно. Ён! Божа, як жа гэта здарылася?! Суседка кажа: „Не хвалюйся, яшчэ затанцуеш з ім!" А я ледзь не плачу.

Так мінула некалькі дзён. Ціха, як у труне. Хадзіла я штодзень у тую кавярню, дзе сустрэла яго (гэта было ў іншым санаторыі), але яго — ні слыху ні дыху. Але аднаго разу бачу: з'язджае ён з нейкай „лялькай" з нашай кавярні, што на дванаццатым паверсе. Я аж задрыжэла. Я ж ужо па ім памінкі збіралася спраўляць, а ён гэтак!

Ну, што ж павесіла я нос і вярнулася ў свой пакой. Не трапіла на свайго! Шкада, што час змарнавала....

Але ж уяві сабе, што ён мяне ўсё ж сустрэў выпадкова каля нашага будынка. Перапрашаў, што не мог тады прыйсці. Высветлілася, што ён — дэтэктыў, працуе ў дэтэктывістычным бюро і на некалькі дзён мусіў выехаць. Ужо я яму амаль паверыла, а мая суседка па пакоі ды і кажа: „А тая „лялька"?" І зноў усё ўва мне заварушылася. Аднак жа ўжо прыходзіў да мяне штодзень і, што тут граха таіць, мы кахаліся, як моладзь. Сяброўка па пакоі была вельмі сімпатычная і выходзіла, калі ён прыходзіў да мяне.

Не ведаю, што сталася з тою „лялькаю", але мне і так было добра. Ужо не хадзілі ні на якія танцы, ні на шпацыры. Пару разоў была я нават у яго кватэры. Зразумела, часу заставалася мала.

Як ты думаеш, ці ёсць шанс, што наша каханне будзе трываць?

**Сцепаніда**

Сцепаніда! Думаю, што гэта было так званае „сезоннае каханне". Пэўна, змяніўся турнус — змянілася і яго каханне. Сядзеў жа ў санаторнай кавярні — чаго? А, зрэшты, я б не раіла верыць ні „кінаапаратарам з Варшавы", ні „прыватным дэтэктывам". Сапраўдныя апаратары ці дэтэктывы гэтым не хваляцца, прынамсі незнаёмым.

**Сэрцайка**

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015